

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

26 КРАСАВІКА 2002г. № 17 - 18/4151 - 4152 КОШТ 290 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы!

Нагадваем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**



# Выстава "СМІ ў Беларусі"

**23 красавіка ў сталічным Палацы мастацтваў адкрылася шостая спецыялізаваная выстава "СМІ ў Беларусі". Як і раней, на ёй шырока прадстаўлены не толькі беларускія перыядычныя выданні (ад рэспубліканскіх да раённых), але й газетна-часопісная прадукцыя Расіі і Украіны. Адкрыў выставу міністр інфармацыі нашай краіны Міхаіл Падгайны. У час урачыстай прэзентацыі неаднаразова адзначалася, што традыцыйная мінская выстава сродкаў масавай інфармацыі — чарговы і канструктыўны крок у агульнай міжнароднай справе аб"яднання прафесійных інтарэсаў.**

**Сёння выстава "СМІ ў Беларусі" закончыла сваю працу.**






*НА ЗДЫМКАХ: адкрываюць выставу Міністр Расійскай Федэрацыі па справах друку, тэлерадыёвяшчання і сродкаў масавых камунікацый Міхаіл ЛЕСІН, Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіл ПАДГАЙНЫ і Старшыня Дзяржаўнага камітэта інфармацыйнай палітыкі Украіны Іван ЧЫЖ, выступае Міхаіл ПАДГАЙНЫ, вядомы журналіст Іван ЖДАНОВІЧ каля стэнда "ЛіМа".*

*Фота А. ГАЎРОНА*



# КОЛА ДЗЁН

**Сёння споўнілася 16 гадоў з дня трагедыі на Чарнобыльскай АЭС. Але, нягледзячы на гады, болю ў душах людзей не паменела. І ўсё ж жыццё працягваецца...**

## ВЫСТУПЛЕННЕ ТЫДНЯ

23 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступіў са штогадовым пасланнем да парламента, у якім былі абазначаны далейшыя шляхі развіцця нашай краіны.

## МЕРАПРЫЕМСТВА ТЫДНЯ

20 красавіка ў нашай краіне прайшоў рэспубліканскі суботнік. Усе сродкі, заробленыя на ім, пайшлі на завяршэнне будаўніцтва і рэканструкцыю ўстаноў аховы здароў'я, у тым ліку бальніц і цэнтраў, размешчаных на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей.

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

У апошні дзень свайго візіту ў ФРГ прэм'ер-міністр нашай краіны Генадзь Навіцкі ўзяў удзел у беларуска-германскім эканамічным форуме ў Боне і кантактна-кааперацыйнай біржы ў Прамыслова-гандлёвай палаце Бон-Рэйн-Зіг. Трэба спадзявацца, што візіт прэм'ер-міністра ў Германію паспрыяе нашаму эканамічнаму росту і ўзаемнавыгаднаму супрацоўніцтву паміж нашымі краінамі. А інакш — для чаго тады ездзіць па свеце?

## ПАЛЁГКА ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, згодна з якой сёлета замест шасці звычайных экзаменаў выпускнікі сярэдніх школ будуць здаваць толькі чатыры. У абавязковым парадку вучням 11-ых класаў давядзецца здаваць экзамены па беларускай ці рускай мове на выбар і матэматыцы. Астатнія дзве вучэбныя дысцыпліны выпускнік будзе выбіраць для здачы экзаменаў самастойна. У выпускнікоў ліцэяў, гімназій, школ ці класаў з паглыбленым вывучэннем прадметаў будуць тры абавязковыя экзамены (па мове, матэматыцы і прафіліруючай дысцыпліне) плюс адна дысцыпліна на выбар. Акрамя ўсяго, другі год запар выпускнікам даецца права залічваць замест выпускнога экзамену ў школе адзнаку, атрыманую ў гэтым годзе на цэнтралізаваным тэсціраванні.

## НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

У Францыі адбыўся першы тур прэзідэнцкіх выбараў. У другі тур нечакана выйшлі дзеючы прэзідэнт Францыі Жак Шырак і ультраправы нацыяналіст Жан-Мары Ле Пэн. Шырак атрымаў 19,67 працэнта галасоў, а 73-гадовы Ле Пэн — 17,02 працэнта. У другім туры па меркаванні аналітыкаў павінен перамагчы Жак Шырак...

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

Гэты год для беларускіх хакеістаў стаў як ніколі трыумфальным. Чацвёртае месца на зімняй Алімпіядзе, цудоўная перамога над алімпійскай зборнай Швецыі і нарэшце пераканаўчая перамога нацыянальнай зборнай на чэмпіянаце свету ў групе "Б" з правам на наступны год выступаць у вышэйшым дывізіёне. Калі і далей нашы хакеісты будуць так паспяхова гуляць, то хакей у нашай краіне можа стаць самым папулярным відам спорту. А чаму б і не...

## УДАКЛАДНЕННЕ ТЫДНЯ

У друку з'явілася ўдакладненне, згодна з якім выхадны, які ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Беларусі "Аб пераносе рабочых дзён у 2002 годзе" выпадаў на 13 мая, адменены. Аб'яўлены перанос рабочага дня з 10 мая на суботу 18 мая захоўваецца. Такім чынам, працоўным з пяцідзённым рабочым тыднем і выхаднымі днямі ў суботу і нядзелю прадастаўляецца магчымасць адпачываць чатыры дні запар — з 9 па 12 мая ўключна.

## АФІЦЫЁЗ ТЫДНЯ

Па звестках Міністэрства працы і сацыяльнай абароны за сакавік колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі павялічылася амаль на 3 тысячы чалавек. Калі напачатку года на ўліку ў службах занятасці нашай краіны знаходзілася 102,9 тыс. чалавек, то па стане на пачатак красавіка — 115,8 тысячы. І сёння на адно свабоднае працоўнае месца прэтэндуюць чатыры беспрацоўныя, а год назад было тры. Але гэта, не трэба забывацца, усяго толькі афіцыйныя лічбы...

## ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

Палачане, якія на сённяшні дзень жывуць і працуюць у Мінску, вырашылі аб'яднацца ў зямляцтва. Ідэю стварэння аб'яднання падказала Вера Пазняк — былая супрацоўніца Полацкага гарадскога камітэта камсамола, а цяпер намеснік загадчыка адной з кафедраў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Беларусі. Новую ініцыятыву падтрымалі многія вядомыя палачане, якія зараз жывуць у Мінску.

## ПАДАРАЖАННЕ ТЫДНЯ

З красавіка на 5 працэнтаў падаражэлі пуцёўкі ў санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынку. Цяпер сярэдні кошт пуцёўкі складае 325 тысяч рублёў. Няслаба...

## НАВІНКА ТЫДНЯ

Спіртзавод "Пяскоўскі" Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці прыступіў да вытворчасці ёдавай гарэлкі "Старапяскоўская люкс", якую можна выкарыстоўваць для прафілактыкі захворванняў шчытападобнай залозы. Па словах спецыялістаў, "лячэбная" гарэлка будзе прадавацца не толькі ў раёнах, якія забруджаны радыенуклідамі. Першыя партыі "Старапяскоўскай люкс" ужо адпраўлены ў крамы, дзе пляшку можна купіць за 2180 рублёў.

---

СВЯТЫ

Тарас Шаўчэнка

## Муза

*А ты, прачыстая, святая*
*Сястрыца Феба маладая!*
*Мяне ты ў посцілку ўзяла*
*I прэч у поле аднясла.*
*I на кургане сярод поля,*
*Як тую волю на раздоллі,*
*Сівым туманам спавіла.*
*I калыхала і спявала,*
*I чары дзеяла... I я...*
*О чарадзеечка мая!*
*Ты мне паўсюдна памагала,*
*Мяне ты ўсюды даглядала.*
*У далёкім, дзікім стэпе,*
*У змрочнай няволі,*
*Красавалася ты, ззяла,*
*Быццам кветка ў полі!*
*Ты з казармы нячыстае*
*Чыстаю, святою*
*Птушачкаю вылецела*
*I па-над мною*
*Палящела, заспявала,*
*Крыллем зачапіла...*
*Бы жывою той вадою*
*Душу акрапіла.*
*I я жыву, і нада мною*
*Сваёю, Божаю красою*
*Гарыш ты, зорачка мая,*
*Мая дарадчыца святая!*
*Мая ты доля маладая!*
*Мяне не кідай. I ўначы,*
*I днём, і вечарам, і ўранні*
*Лунай са мною і вучы,*
*Як словам*
*шчырым, незламаным*
*Сказаці праўду. Памажы*
*Малітву дзеяць аж да краю.*
*А як памру, мая святая!*
*Мая матуля! Пакладзі*
*Свайго ты сына ў дамавіну*
*I хоць адзіную слязіну*
*Ў вачах спрадвечных засвяці.*

*1858, Ніжні Ноўгарад*

**З украінскай пераклаў Валеры СТРАЛКО**



*Каля пасольства Украіны 22 красавіка ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка класіку ўкраінскай літаратуры Тарасу Шаўчэнку. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел мэр Мінска Міхаіл Паўлаў і мэр Кіева Аляксандр Амельчанка.*

---

ІМПРЭЗЫ

# "З вясною ў адным вагоне"

Сёлета вялікаму беларускаму мастаку Вітальду Каэтанавічу Бялыніцкаму-Бірулю спаўняецца 130 гадоў. Святкаванне ўжо пачалося. Юбілею прысвечаны мастацкія экспазіцыі ў Магілёве і ў двух сталічных музеях — Нацыянальным мастацкім і Музеі гісторыі і культуры. 130-годдзю мастака была прысвечана і культурніцкая акцыя, што адбылася 31 сакавіка ў мінскім кінатэатры "Змена".

Гэта была сустрэча пісьменніка Віктара Карамазава з аматарамі беларускай культуры, беларускага слова. Прысутныя пабачылі фільмы, да якіх пісьменнік меў непасрэднае дачыненне як сцэнарыст — "Вяртанне ў вырай" (1999) і "Сцежка да выратавання" (1997), а таксама відэафільм пра міжнародны пленэр па жывапісе імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі, што праходзіў у 1997 годзе.

Фільм "Вяртанне ў вырай" пабудаваны на дзённікавых запісах Бялыніцкага-Бірулі, праілюстраваных вобразамі жывой беларускай прыроды і палотнамі майстра. "Сцежка да выратавання" — гэта фільм-дзённік самога пісьменніка. Аповед пра ягоную вандроўку ў родную вёску. Светаўспрыманне Віктара Карамазава вельмі блізкае творчым прынцыпам Бялыніцкага-Бірулі. Таму абодва фільмы лагічна дапаўнялі адзін аднаго.

Аднак галоўнае, дзеля чаго сабраліся людзі на сустрэчу з пісьменнікам, была прэзентацыя кнігі В. Карамазава "З вясною ў адным вагоне". Яна выйшла з друку сёлета ў выдавецтве "Юнацтва". У кнізе дзве аповесці — "Мой брат духоўны..." (пра мастака С. Жукоўскага) і класічны твор біяграфічнага жанру "Крыж на зямлі і поўня ў небе" (аб жыцці і творчасці В. К. Бялыніцкага-Бірулі). Да таго ж у кнізе тры эсэ пра мастакоў бліжэйшых нам па часе — Г. Вашчанка, А. Бараноўскі, А. Бархаткоў. Трэцяя частка выдання — дзённік пісьменніка "З вясною ў адным вагоне", які даў назву кнізе.

Паміж прысутнымі на прэзентацыі і пісьменнікам адбылася зацікаўленая гаворка аб пісьменніцкай працы, аб мастацкай творчасці, аб нацыянальнай культуры і яе народных каранях.

Людзей у зале было небагата; бо кінатэатр не цэнтральны, і рэклама беларускіх імпрэзаў, як кажуць, звычайна не на першых палосах газет. Але тыя, хто прыйшоў, не пашкадавалі.

**П. В.**

---

НАДЗЁННАЕ

Вадзім СПРЫНЧАН

# На шляху да Бога

(МАНАЛОГ МАЁЙ ДАЧКІ АКСАНЫ)

*Прамінула пятнаццаць гадоў,*
*Калі трэці анёл затрубіў*
*Над ракою маленства майго*
*I на Прыпяць упала злавесная зорка Палын...*
*I пазнала я чорную сілу яе прамянёў.*
*Дужа горка было на душы,*
*Дужа змрочна на сэрцы было.*
*Лепш пра тое не згадваць. Ды як?*
*Гэту згубную чашу прыгубілі многія з нас.*
*Боль і горыч і сёння пануюць паўсюль.*
*Цяжка выжыць. А жыць?*
*Дзякуй Богу, жыву. I люблю.*
*Трэба жыць на радзімай зямлі.*

*Аж не верыцца: зорка Венера ўзышла...*
*Вось ён, — час хараства і кахання, —*
*Час "Вянка"!*
*Быццам я ў зачараваным царстве стаю*
*I ўзіраюся ў люстры дзівосных азёр.*
*Нешта ёсць ува мне ад язычніцы светлай... Але*
*Я жыла ў эпіцэнтры апакаліптычных падзей,*
*Я жыву пасля страшнай тае катастрофы,*
*I ўсё болей душа адчувае сябе хрысціянкай.*
*I цяпер, у часы Адраджэння Айчыны маёй,*
*На святой беларускай зямлі,*
*На зямлі Еўфрасінні святой*
*Крыж нясу і малюся адзінаму Богу.*

*Віфлеемская зорка святло суцяшальнае лье*
*Проста ў сэрца маё,*
*Саграва, ратуе мяне.*
*Зорны час чысціні і святла!*
*Боскі час неўміручай любові!*
*Беларусы мае!*
*На ахвярнай дарозе жыцця*
*Не ўпадайма ў адчай.*
*З намі Бог!*
*Будзе жыць Беларусь,*
*Будзе вечна бялець*
*Ветразь Белай Русі*
*На прасторах Сусвету.*
*2001*

ЮБІЛЕІ

# Свята "Вясёлкі"

У Доме літаратара адбылося святкаванне юбілею дзіцячага часопіса "Вясёлка". Гэтымі днямі адзначаецца яго саракапяцігоддзе. Не дзіўна, што з такой "недзіцячай" датай супрацоўнікаў выдання прыйшлі павіншаваць людзі самага рознага ўзросту. Але ж асноўнымі гасцямі, як і трэба было чакаць, сталі дзеці.

Па традыцыі прысутных вітаў рэдактар "Вясёлкі" Уладзімір Ліпскі. Ён адзначыў, што першымі чытачамі часопіса маглі быць і хутчэй за ўсё былі бабулі і дзядулі сённяшніх пяці-шасцігадовых хлопчыкаў і дзяўчынак. Пра паважны узрост часопіса і яго багатыя традыцыі казалі прадстаўнікі міністэрстваў інфармацыі і адукацыі. Аўтарам часопіса ўручылі ганаровыя граматы і падарункі. Быў зачытаны і адмысловы ліст ад міністра інфармацыі Міхаіла Падгайнага, які паведамляў, што вымушаны прысутнічаць на адкрыцці выставы "СМІ Беларусі" і не можа асабіста прысутнічаць на свяце "Вясёлкі". Шматгадовая праца намесніка галоўнага рэдактара часопіса Тамары Тарасавай была адзначана знакам "Выдатнік друку Беларусі". У сваю чаргу супрацоўнікі выдання віталі гасцей сваімі вершамі. Міколы Маляўка і Чарняўскі, Ніна Галіноўская...Цяжка нават пералічыць усіх, хто са словамі ўдзячнасці звяртаўся да прысутных у зале. Каб павіншаваць аўтараў і чытачоў часопіса, упершыню "вылезлі з-пад стала" героі "Калыханкі". Але без сумнення галоўнымі героямі дня сталі тыя, для каго ўрэшце і выдаецца часопіс — дзеці. Яны таксама чыталі вершы, танчылі, спявалі. Адметнасцю вечарыны стала тое, што былі задзейнічаны і "звычайныя" гледачы. Апошнія адказвалі на пытанні, падпявалі.

**В.Д**



*На здымку: вёў юбілейную вечарыну галоўны рэдактар "Вясёлкі" Уладзімір ЛІПСКІ.*

*Фота А. Г.*

АНОНС

# Вітайце "Ластаўку"!

Легенда (ці быль?) пра тое, як вясковая ластаўка змайстравала гняздо над калыскай немаўляці ў радзіннай сядзібе Манюшкаў, падказала назву гэтай імпрэзе. Яе сімвалам зрабілася крохкая звонкагалосая птушачка, якая нібыта благаславіла музычны талент будучага кампазітара. І вось ужо трэці год запар збірае-благаслаўляе маладыя спеўныя таленты "Убельская ластаўка", рамантычная апякунка малой радзімы Станіслава Манюшкі.

Тут, у Чэрвеньскім раёне, дзе захаваўся падмурак былога Убеля, дзе створаны адзіны ў свеце музей кампазітара ў маі 2000 г. прайшоў Першы абласны фестываль-конкурс беларускай і польскай музыкі, прысвечаны асобе нашага выдатнага земляка. Сёлета "Убельская ластаўка", нягледзячы на фінансавыя праблемы, зноў склікае маладыя галасы Беларусі. Гэтым разам конкурс вакалістаў, прысвечаны творчасці С. Манюшкі, ладкуюць Беларуская акадэмія музыкі, капэла "Sonorus", аддзел культуры Чэрвеньскага райвыканкама ды Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі.

Урачыстае адкрыццё імпрэзы, у якім удзельнічаюць лаўрэаты конкурсу "Убельская ластаўка" 2000—01 г.г., адбудзецца 3-га мая ў Габеленавай зале Мінскага музычнага вучылішча, следам распачнецца першы тур сёлетняга спеўнага спаборніцтва. Назаўтра плануецца свята ў Чэрвені: другі конкурсны тур, падвядзенне вынікаў, гала-канцэрт новых лаўрэатаў у раённым Цэнтры культуры і адпачынку. Паводле добрай традыцыі, у падрыхтоўцы гэтай святочнай праграмы бярэ ўдзел знаны музычны калектыў (дарэчы, з часу яго заснавання акурат на пачатку мая спаўняецца 10 гадоў) — капэла "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута. Арганізатары "Убельскай ластаўкі" запрашаюць на свята ўсіх!

**С. Б.**



# Купалавы далягляды

"Купалавы далягляды" —такую назву атрымаў конкурс драматургіі, які абвяшчае Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы напярэдадні 120-годдзя з дня нараджэння беларускага песняра. Конкурс закліканы "ўсвядоміць разам з драматургам, што хвалюе нас сення, якія мы, што шукаем і што знаходзім за даляглядамі гісторыі". Галоўнай мэтай у палажэнні аб конкурсе вызначаецца падтрымка таленавітых твораў і пошук новых накірункаў у сучасным тэатры.

На конкурс прымаюцца п'есы, якія раней не публікаваліся і не ставіліся ў тэатрах. Тэма, жанр п'есы — неабмежаваныя; адзінае пажаданне, каб у п'есе было не болей за пяць дзейных асоб. Конкурс, які працягнецца з красавіка па снежань 2002 года, з'яўляецца закрытым — да рукапісаў будуць далучаны канверты з рэквізітамі аўтараў. У студзені наступнага года вынікі конкурсу падвядзе журы на чале з мастацкім кіраўніком тэатра імя Янкі Купалы Валерыем Раеўскім. Акрамя яго ў склад журы ўвойдуць дырэктар тэатра Генадзь Давыдзька, вядомыя артысты Марыя Захарэвіч і Віктар Манаеў, рэжысёры Аляксандр Гарцуеў, Уладзімір Савіцкі і Уладзімір Шчэрбань, а таксама супрацоўнікі літаратурна-драматычнай часткі тэатра Марына Бартніцкая і Алена Калюнова. Вынікі конкурсу будуць падведзены на ўрачыстай цырымоніі з публічным адкрыццём канвертаў і абвяшчэннем імёнаў аўтараў-пераможцаў. Лепшая п'еса будзе пастаўлена на купалаўскай сцэне ў сезоне 2003-2004 гадоў. Акрамя гэтага маральнага заахвочвання, для ўдзельнікаў конкурсу прадугледжаны грашовыя ўзнагароды і каштоўныя прызы.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Адзначаны маладыя

У мастацкім аддзеле абласнога краязнаўчага музея віншавалі маладых артыстаў, навучэнцаў музычных і мастацкіх школ, сярэднеспецыяльных навучальных устаноў, якія вызначыліся высокім выканаўчым майстэрствам. Абласныя прэміі ўручаны актрысам Гомельскага драмтэатра Вользе Хайковай і Вользе Залязецкай, Мазырскага драмтэатра — Вользе Касінскай, абласнога тэатра лялек — Кацярыне Карчэўскай. Вялікая група маладых мастакоў і музыкантаў з Гомеля, Мазыра, Рэчыцы, Рагачова і Буда-Кашалёва адзначаны прэміямі.

## Апладысменты ў Маскве

У Маскве прайшоў адкрыты конкурс салістаў і ансамбляў — выканаўцаў на народных інструментах. Конкурс называўся "Настаўнік і вучань". У ім бралі ўдзел 450 юных музыкантаў кансерваторый, каледжаў, ліцэяў і музычных школ. Беларусь на класе баяна прадстаўляла вучаніца Гомельскай дзіцячай музычнай школы № 1 імя Чайкоўскага Кацярына Янко, якая займаецца ў педагога Міхаіла Галавача. У конкурсе Каця заняла другое месца.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Горад рыхтуецца да фестывалю

Чэрвеньскімі днямі ў Гродна пройдзе чацвёрты Усебеларускі фестываль нацыянальных культур. Мяркуецца, што ў свяце прымуць удзел каля дваццаці нацыянальных суполак. Сваё мастацтва тут упершыню прадставяць беларускія дагестанцы, туркмены, узбекі, чувашы і марыйцы. У рамках падрыхтоўкі да фестывалю ў абласцях Беларусі завершаны рэгіянальны тур, яго заключны канцэрт прайшоў у Мінску. А заключным этапам, натуральна, стане летні фестываль.

## Да Еўфрасінні Полацкай

Група лепшых вучняў Дзятлаўскага раёна пабывала ў Гродзенскім абласным Доме дзіцячай творчасці. Тут было арганізавана свята памяці Еўфрасінні Полацкай, нябеснай апякункі Беларусі. На свяце падвялі вынікі конкурсу літаратурнай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці школьнікаў. Сувенірамі і граматамі адзначаны лепшыя работы, у якіх паказаны жыццёвы і духоўны подзвіг святой Еўфрасінні. Сярод пераможцаў — Антон Піскун, Аня Лазоўская (графіка, выцінанка), Марына Варабей (нарыс, эсэ) з сярэдняй школы № 1.

## "Прымакам" пашчасціла

У Лідзе прайшоў абласны фестываль народнай музыкі. У ім браў удзел і фальклорны гурт Дзятлаўшчыны пад кіраўніцтвам Міколы Палюшэвіча. Гэты калектыў створаны і працуе пры метадычным цэнтры Дзятлаўскага раённага аддзела культуры. А называецца ён — "Прымакі". Самадзейныя артысты выступілі ўдала і сталі дыпламантамі конкурсу.

## Сям'ю мацуе мастацтва

У Дзятлаўскім гарадскім Доме культуры прайшоў раённы фестываль сямейнай мастацкай творчасці. З усіх куткоў раёна з'ехаліся сюды самадзейныя артысты. З Дварэцкага сельскага клуба прыехала сям'я Баклушыных. З вёскі Погіры прывезлі на суд гледачоў свае жартоўныя прыпеўкі Марыя і Пётр Шыдлы. Высокае выканаўчае майстэрства паказалі Таццяна і Міхаіл Семенюкі (в. Войневічы), дуэт Галіны Булгакавай і яе сына Сяргея (в. Страла), браты Літвінскія з г.п. Наваельня... Лепшыя з выканаўцаў выступяць на Гродзенскім абласным фестывалі сямейнай творчасці.

**Іосіф ЗАЯЦ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Спявала песні Лера Сом

Тыдзень таму ў Полацкім музеі кнігадрукавання адбылася творчая вечарына паэткі Леры Сом. Яе вітаў дырэктар Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка Мікалай Ільніцкі. На вечарыне выступілі калегі Леры — Ірына Жарнасек, Герман Кірылаў, Лявон Неўдах, Ірына Дарафейчук, Змітрок Куніцкі. Літаратар Франц Сіўко зачытаў пародыі Міхася Міранoвіча. Ад Таварыства вольных літаратараў слова меў Алесь Аркуш. На працягу вечарыны Лера Сом выконвала свае песні.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Лепшы падарунак

Паэтка Раіса Баравікова падаравала юным чытачам Цехцінскай школьнай бібліятэкі Бялыніцкага раёна больш за 200 уласных кніг. Падарунак своечасовы, бо сродкаў на набыццё новай літаратуры ў бібліятэцы няма, а кніжныя фонды катастрафічна збяднелі.

## Увесь свет на крыльцах матылькоў

У Магілёўскім краязнаўчым музеі зараз працуе адмысловая выстава пад назвай "Экзатычныя матылькі свету". Прадстаўлены экспанаты з Мінскага музея натуральнай гісторыі. Гэта больш за 500 матылькоў з Бразіліі, Кубы, Мадагаскара, Аўстраліі, Перу... На асобным стэндзе — беларускія матылькі (24 віды).

## Дні народаў Беларусі

З 27 па 30 красавіка ў абласным цэнтры пройдуць Дні народаў Беларусі. Арганізатары мерапрыемства — упраўленне культуры аблвыканкама і мясцовая філармонія. У рамках свята шырока будзе прадстаўлена культура армян, габрэяў, цыганоў і, натуральна, беларусаў. Пройдуць самыя разнастайныя выставы, канцэрты, спектаклі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*МІНШЧЫНА...*

## Традыцыйная культура і дзеці

На Барысаўшчыне прайшоў чатырохдзённы рэспубліканскі семінар спецыялістаў па фальклоры абласных і раённых метадычных цэнтраў, кіраўнікоў фальклорных калектываў на тэму "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы аднаўлення і выхавання". Яго арганізавалі Міністэрства культуры, Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры, Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці, Барысаўскі райвыканкам. Гаворка ішла пра развіццё дзіцячых фальклорных калектываў, пра распрацоўку рэгіянальных мэтавых праграм па захаванні традыцыйнай беларускай культуры.

**НАШ КАР.**




## “Крыніца”, № 3

Выйшаў чарговы трэці нумар часопіса “Крыніца”.

У рубрыцы “Ты” прадстаўлены вядомы празаік, паэт, мастак і кнігавыдавец Адам Глобус. Інтэрв'ю ў пісьменніка ўзяла літаратуразнаўца Ганна Кісліцына. Свае слова пра Глобуса на старонках часопіса сказалі Алесь Бадак, Леанід Галубовіч, Святлана Явар, Пятро Васючэнка, Усевалад Гарачка, Дзмітрый Серабракоў і інш. Надрукавана “падарожная проза” Адама Глобуса, якая называецца “Празрысты Парыж”.

У рубрыцы “У нас” друкуецца аповесць Сяргея Трахімёнка “Заложнікі”, прысвечаная падзеям, што адбываліся ў савецкай турме.

Рубрыка “Яна” прадстаўлена вершамі амерыканскай паэтэсы Сільвіі Плас (1932—1963). Гэтая самабытная творца пражыла зусім мала, бо, захварэўшы на дэпрэсію і маючы хіба што ўсё неабходнае для шчасця — прыгажосць, адукацыю, дзяцей, літаратурны і службовы поспех, — скончыла жыццё самагубствам. Творы, напісаныя паэтэсай у розныя перыяды яе жыцця (у тым ліку ў час лекавання ў псіхалагічным шпіталі) пераклала на беларускую мову з англійскай Алена Якаўлева.

У нумары надрукавана таксама падборка лірыкі Ліліі Мялешкі.

У рубрыцы “Наша” апублікавана заканчэнне дзённіка Барыса Сачанкі “З запісак рэдактара”, падрыхтаванага да друку малодшай дачкой пісьменніка Святланай.

С. Я.

## Знікненне прасторы

Банальна: шурпатыя сцены, акруглыя праёмы, старыя вокны, цені. Нудна: шэрае, белае, чорнае, таму што фатаграфічнае. Моднае: схемы, лініі, палоскі на паверхні здымкаў. Але... Нешта ўтрымлівае. Не адпускае позірк. Гэтае нешта — жаданне падгледзець за... прасторай, а дакладней, яе адлюстраваннем у фотаработах Сяргея Ждановіча “Знікненне прасторы”, выстава якога праходзіць у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. “Мала хто бачыць знікненне... Знікненне прасторы — гэта тое, што было імгненне назад, тое, што прайшло амаль незаўважным, але засталося рэнтгенаўскім здымкам, — тлумачыць сам мастак. — Гэта такі трыумф прасторы і туга часу”. Аўтар прыемна несучасны чалавек у тым, што не змяняе наваколле, а нервова назірае за ім, за тым, што будзе, калі сустрэнуцца свет і матэрыял, як яны сальюцца ў адзіную імгненную кампазіцыю, а праз хвіліну — у зусім іншую.

Святлана ЖУРАЎСКАЯ

## “Вожык” смяецца!

Маштабна адзначылі “міжнароднае гумарыстычнае свята” — Дзень смеху 1-га красавіка — супрацоўнікі, пазаштатныя аўтары часопіса “Вожык” і ўсе тыя, хто прыйшоў на сустрэчу з імі. Яно расцягнулася ажно на тры дні — 1-га, 2-га і 3-га красавіка. 1-га красавіка галоўны рэдактар “Вожыка” Міхась Пазнякоў, адказны сакратар часопіса Уладысь Цвяткоў, супрацоўнік часопіса “Полымя” Павел Саковіч, загадчык мастацкага аддзела “Вожыка” Іван Бокій узялі ўдзел у вечарыне, якая адбылася ў сталічным ГПТВ № 133. 2-га красавіка пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Уладысь Цвяткоў, Павел Саковіч, Іван Курбека, мастак Іван Бокій выступалі ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы. 3-га красавіка Міхась Пазнякоў, Уладысь Цвяткоў, Іван Бокій смяшылі сваімі творамі ўдзельнікаў сустрэчы з імі ў мінскай бібліятэцы № 7 імя Коласа.

Шчырая падзяка кіраўнікам і супрацоўнікам гэтых устаноў за падтрымку айчыннай сатыры і гумару і добра арганізаваныя, цікавыя, смешныя “першакрасавіцкія” сустрэчы з чытачамі! Дарэчы, многія з іх выпісваюць “Вожык”, і правільна робяць, бо смех, як даказваюць сучасныя медыкі, значна паляпшае стан здароўя кожнага чалавека, незалежна ад яго схільнасцяў, характару, полу, узросту і партыйнасці!

Антон ВЯДЗЕНІЧ

НАДЗЁННАЕ

# Пачнём з сябе

### ЯШЧЭ РАЗ ПРА КНІГАГАНДАЛЬ

Займаючыся “ўладкаваннем” мізэрнага тыражу сваёй апошняй кніжкі, пазваніў у адзін з кнігагандляў. Маўляў, вазьміце колькі асобнікаў на рэалізацыю. Хоць колькі, бо сабекошт выдання высокі і выдавец, зважаючы на нейкія там падатковыя нюансы, занізіць цану не мае права. І пачуў у адказ: “А вы думаеце, цана надта паўплывае на попыт? Будзе патрэбная каму ваша кніжка — купяць і за пяць тысяч, не — за сотню рублёў і нават за дзесятку не пакваляцца”.

Зноў успомніў гэты дыялог, калі вяртаўся цягніком са сталіцы пасля апошняга пасяджэння пісьменніцкай рады, на якім вырашана было правесці тэрміновы з'езд з абмеркаваннем у тым ліку і стану нашай выдавецкай справы. Што толькі ні чытае і па якой цане не набывае тое чытво сённяшні беларус у імкненні зладзіць неяк нязручнасці падарожжа! Тут і газета табе за пяцьсот рублёў, і танюсенькая брашурка за семсот, і часопіс за тысячу, набытыя прама ў вагоне ў паслужлівых цягніковых валанцёраў. Міжволі падумалася: ці такі гэта ўжо важны фактар — наша агульная беднасць, на якую з прычыны і без прычыны спіхваем усе нашы нягоды з беларускамоўнымі выданнямі? Дарэчы, маладзенькая рускамоўная суседка па купэ, убачыўшы, што чытаю беларускую кніжку (М. Шабовіч перад аб'ездам прэзентаваў толькі што выдадзены зборнік), тут жа зацікавілася, папрасіла паглядзець. І прачытала збольшага, наколькі дазваляла вагонная гайданка, і пытанні нават задала адносна тэматыкі і персоны аўтара.

Колькі заўгодна можна наракаць на зніжэнне чытацкага попыту ды на абставіны, але ці выправіць гэту сітуацыю? “Пісьменнік папісвае — чытач пачытвае?” А можа, і не “пачытваць”, бо мае на гэта права. Асабліва калі і пісьменнік не надта гарыць да завязвання з ім, чытачом, нейкіх кантактаў. Гэта апошняе якраз і бачна ў беларускіх аддзелах кнігарняў.

У віцебскай кнігарні “Равеснік”, напрыклад, кніжак беларускіх, “добрых і розных”, — не адзін дзесятак назваў. У тым ліку і мясцовых, як мы прывыклі казаць, перыферыйных аўтараў. Цікавыя зместам, добра афармленыя, ляжаць некаторыя з канца мінулага стагоддзя пры кошце ў паўсотню рублёў. Пытаюся ў магазіншчыцы, чаму так. “А што вы хочаце, — адказвае. — Напраміілы Бог просяць аўтары ўзяць у продаж пад гарантыю самага актыўнага ўдзелу ў рэалізацыі, а як толькі возьмеш, тут жа забываюцца на абяцанне. Вось і атрымліваецца: месца бойкае і філфак праз дарогу, а выданні не разыходзяцца”. Другая бяда, на думку жанчыны, — кепская каардынацыйная праца, а то і поўная адсутнасць яе, маркетынгавых службаў пры выдавецтвах. Тут ужо іншы хіб: пры размеркаванні тыражу па рэгіёнах ігнаруюцца звесткі пра аўтара, у выніку чаго кніжкі ўраджэнца Гомельшчыны трапляюць найперш на Віцебшчыну і наадварот.

Безумоўна, няправільна было б зводзіць праблемы толькі да апатычнасці аўтараў і кепскай працы выдавецтваў. Але ж і гэта ёсць, і шукаць выйсце трэба, калі жадаем выправіць становішча.

Асобнай гаворкі заслугоўвае праблема ўтрымання на прыстойным узроўні тыражоў нашых тоўстых літаратурных часопісаў. На тым самым узроўні, які б раз і назаўсёды перапыніў размовы ды спекуляцыі, звязаныя з незапатрабаванасцю і неперспектыўнасцю выданняў.

Сапраўды, тыражы не радуюць. Але якімі яны мусяць быць, калі справа іх папулярызацыі з году ў год абмяжоўваецца анонсамі на апошніх старонках вокладак ды няспелымі заклікамі “быць разам”? Ці не час успомніць, што пры агульнай абыякавасці абывацеля да літаратурных спраў ёсць яшчэ і студэнты філфакаў, настаўнікі, проста неабыякавыя да роднага слова і прыгожага пісьменства людзі. Але з імі трэба пастаянна кантактаваць: анансаваць у раёнках выданні пісьменнікаў-землякоў, арганізоўваць творчыя сустрэчы з педкалектывамі і аўтарамі, наладжваць сувязі з інспектарамі раённых ды абласных аддзелаў адукацыі і кіраўніцтва метадаб'яднанняў, каардынаваць дзейнасць з суполкамі ТБМ, якія на сёння часта ў адзіноце цягнуць нялёгкі воз прапаганды беларушчыны. Упэўнены, гэта магло б паспрыяць паляпшэнню сітуацыі. Інакш усё застанецца па-ранейшаму. Калі прыходзіш у тэхнічную ВНУ на занятку да першакурснікаў, учарашніх выпускнікоў школ, з жахам бачыш, што яны не толькі не ў стане назваць з дзесятак твораў сучаснай літаратуры, а нават у назвах часопісаў няправільна ставяць націскі, бо ніколі іх раней не бачылі.

А самі мы, члены творчага саюза, — хіба не рэзерв? Чаму б рэдакцыям, зважаючы на нашу пісьменніцкую несвядомасць, не ўвесці правіла: надрукаваўся ў часопісе — арганізуй энную колькасць падпісак. Не хочаш — чытай сваякам у рукапісе свае начныя шчыраванні.

Мусім усвядоміць: самі не зробім — ніхто не зробіць. Цяжка, вядома, і нязвыкла. Але хіба Цётцы лягчэй было, калі выдавала першыя лемантары?

З прычыны цяжкасцей, з якімі сёння сутыкаемся, бачыцца актуальнай і рэарганізацыя працы Саюза пісьменнікаў у згаданым накірунку. У саюзе мусіць быць арганізаваная мабільная маркетынгавая служба, якая карпатліва і мэтанакіравана, з дня ў дзень, будзе займацца ўзнятым пытаннем. Магчыма, гэта будзе і адна асоба — ды статус яе павінен быць самы высокі. І заробак, па магчымасці, — хай тыя ж часопісы ахвяруюць па чвэрці стаўкі (калі гэта рэальна, вядома). Можа, тады, урэшце, здолеем перамагчы хранічную хваробу поўнай залежнасці ад павеваў часу.

У многіх рэгіёнах Беларусі станаўленне беларушчыны як этнакультурнага феномена пачыналася (і часта — у вельмі неспрыяльных умовах) з вывучэння найболып свядомымі прадстаўнікамі тагачаснага грамадства фальклору, народных звычаяў і мовы. Той самай мовы, якая стала цягам стагоддзяў і выразніцай нашай нацыянальнай адметнасці, і сродкам нашага пісьменніцкага дыялога з людзьмі. Няўжо дапусцім, каб ён перарваўся?

Франц СІЎКО

ПОШТА

# Добра, што ёсць такія людзі на свеце...

***Ірэна Каляда-Смірнова — гэта прозвішча шчырай беларускі са Злучаных Штатаў Амерыкі добра вядомае чытачам “ЛіМа”.***

***Пра дабрачынную дзейнасць гэтай прыгожай і высакароднай жанчыны мы ўжо расказвалі на лімаўскіх старонках. Сёння, у сумную гадавіну чарнобыльскай трагедыі, мы ахвотна друкуем ліст жыхароў Мазыра, які мае непасрэднае дачыненне да нашай гераіні.***

Кажуць, цудаў не бывае. Але ж вучні і настаўнікі г. Мазыра пераканаліся ў адваротным. Хіба гэта не цуд, што група беларускіх вучняў з чарнобыльскай зоны атрымала магчымасць адпачыць у чароўнай краіне пад казачнай назвай Славенія?

Гэта казка працягвалася з 12 снежня па 7 студзеня. Дзеці апынуліся на ўзбярэжжы Адрыятычнага мора ў адным з самых маляўнічых куткоў Еўропы. Вельмі шчыра сустрэлі дзяцей добразычлівыя гаспадары. Іх размясцілі ў камфартабельных утульных пакоях, да паслуг дзяцей была прапанавана сучасная кухня са смачнай, каларыйнай стравай. Акрамя гэтага, вучні атрымалі магчымасць пабыць на экскурсіі ў славянскіх гарадах Піран і Копер, у Пастойнай Яме, Прад'ямскім замку.

У час адпачынку даволі значнае месца надавалася аздараўленчым мерапрыемствам і фізічнаму развіццю дзяцей, шмат праводзілася цікавых, забаўляльных праграм. Адным словам, дзецям не было часу для суму і тугі.

Усё гэта разам з лячэбным свежым паветрам, са шчырым клопатам настаўнікаў і работнікаў пансіяната спрыяльна адбілася на здароўі нашых дзяцей. А калі дзеці вярнуліся дамоў, то яшчэ доўгі час знаходзіліся пад уражаннем адпачынку ў Славеніі.

Зрабіць казку рэальнасцю немагчыма без добрых, шчырых людзей. Гэты навагодні падарунак — цуд для мазырскіх вучняў — стварыла явай наша суайчынніца, спадарыня Ірэна Каляда, якая зараз жыве ў Злучаных Штатах і ўжо шмат гадоў займаецца аздараўленнем дзяцей з чарнобыльскай зоны.

Дзякуй Богу, што на свеце ёсць такія людзі.

**Бацькі:**
**І.Л. Чарнейка, Н.У. Смоляр, Л. У. Цырук, В.В. Табулін, М. М. Нішчык, А. Ю. Літвінюк, В. В. Баранаў, В. М. Такарская, В. В. Хлопаў, Л. Д. Скакун, А. С. Адолій, Т. М. Рэшатава, М. А. Скаржынская.**





*У гасцях у спадарыні Ірэны Каляды-Смірновай; беларускі танец у Славеніі.*

# Камсамольская пуцёўка

Васіль ШЫБАЛКА-ПАЎЛАЎСКІ

— Колькі табе гадоў?

— Семнаццаць.

— Камсамолец?

— Не.

— Чаму?

Васіль не мог распавядаць дзецюку з гаркама камсамола, чаму ён яшчэ не камсамолец. Калі скажа, то, вядома ж, не атрымае пуцёўку на ўдарную камсамольскую будоўлю. А займецъ яе была вельмі важкая патрэба.

Васіль працаваў на аўтарамонтным заводзе аўтаслесарам. Часам "пасвілі" гусей. Так між сабой называлі яны пошук пакупнікоў аўтазапчастак. Рабілася гэта проста: хто-небудзь з рабочых пераскокваў праз плот і дамаўляўся з жадаючымі прыдбаць запчасткі, пра іх кошт. А калі ўлічваць, што набыць аўтазапчасткі афіцыйна не было аніякай магчымасці, то пакупнікоў, "гусей", як іменавалі аўтарамонтнікі, шастала вакол завода даволі шмат. Левую "выручку" здавалі начальніку, а той альбо дзяліў паміж членамі брыгады, альбо пасля работы ішлі да лясочка, што зелянеў непадалёку, па шляху заглянуўшы ў краму. Справа гэта была рызыковая. І вельмі было проста трапіць пад артыкул крымінальнага кодэксу. Шанцавала не ўсім. Бывалі выпадкі, што і пападаліся. Так і здарылася з адным Васілёвым таварышам. Перакідаючы праз плот чарговую партыю запчастак, ён трапіў проста ў рукі дырэктара завода, які перадаў яго варце, а тая выклікала міліцыю. Баючыся таго, што застрыманы можа выдаць сваіх хаўруснікаў, сябры вырашылі хуценька змыцца. Хтосьці падказаў, што гарком камсамола выдае пуцёўку на будоўлю Куйбышаўскай ГЭС.

І вось Васіль мармыча нешта няўцямнае. Папраўдзе Васілю ніхто не прапаноўваў уступаць у камсамол. Ён разумеў, чаму не спяшаюцца прымаць. На той час яго бацька знаходзіўся ў зняволенні, і Васіль хадзіў з кляймом сына ворага народа. Дык не мог жа ён усё гэта сказаць дзецюку з гаркама. Але той не стаў дапытвацца, працягнуў нейкую паперку. "На, запоўні анкету", — загадаў — "Вам належыць праз тры дні быць у абкаме камсамола для адпраўкі на будоўлю. Справіцеся?" — "А вы патэлефануйце на завод, каб нас звольнілі без затрымкі", — параілі хлопцы. Дзяцюк зняў тэлефонную трубку, набраў нумар тэлефона кагосьці з заводскага начальства, растлумачыў сутнасць справы, пасля чаго іх у два дні разлічылі і выдалі працоўныя кніжкі. Праз тры дні ім трэба было быць у абкаме камсамола.

Пасля кароткага выступлення сакратар абкама пажадаў ім шчаслівай дарогі, потым уручыў кожнаму з ад'язджаючых пуцёўкі. Пасля ўсе накіраваліся на вакзал. І вось ужо цягнік спыніўся ў Маскве. Васіля ахапіла хваляванне пры наведванні знакамітых мясцін Масквы, асабліва Чырвонай плошчы. Яго ўразіла ўсё: будынак Гістарычнага музея, сабор Васіля Блажэннага, вельмі вялікая крама і сама плошча, забрукаваная гладкім, адшліфаваным каменнем. Пастаяўшы яшчэ колькі часу ў глыбокім смутку перад Маўзалеем, Васіль зайшоў у магазін. Тут ён яшчэ раз здзівіўся яго велізарнасці і мноству тавараў. Прыдбаў сабе пакупку за пяць рублёў — белыя штаны, якія яму вельмі спадабаліся. "Ну вось і я цяпер, як тыя начальнікі (іх ён бачыў не раз, прыязджалі ў яго вёску), буду ў белых штанах", — падумаў сам сабе. Пахадзіўшы яшчэ па вуліцах і плошчах цэнтра Масквы, паездзіўшы на метро, Васіль накіраваўся да Казанскага вакзала. Там фарміраваўся спецыяльны цягнік, які накіроўваўся на будоўлю.

Пасля доўгай дарогі высадзіліся на месцы прызначэння. Першае, што так уразіла ўсіх, — гэта размах будоўлі. Стаяў гул. Гэты гул не сціхаў ні на хвіліну, ні днём, ні ноччу, ні ў выхадныя, ні ў святочныя дні. Дзівіліся яны і мноству людзей, што былі вакол. Колькі іх? Мо дзесяткі, мо сотні тысяч. "А гэта хто?" — меркавалі хлопцы, убачыўшы калоны людзей пад наглядам узброенай варты. "Гэта ж вязні!" — здагадаліся нарэшце. Потым бачылі іх даволі часта — кожную раніцу, калі тых вялі на працу, і кожны вечар, калі яны варталіся да сваіх баракаў. Ішлі зняволеныя роўнымі калонамі, моўчкі, і здавалася, што даўно звыкліся са сваім становішчам і скарыліся лёсу. "Недзе, можа, так вядуць і бацьку", — думаў Васіль.

Бацька ў сваіх лістах дадому звяртаўся да жонкі з пажаданнем, каб яна абавязкова вучыла сына, нягледзячы на ўсе цяжкасці. На гэта маці Васіля не вельмі звяртала ўвагу, лічачы, што сямі класаў яе сыну хопіць, бо за далейшую вучобу трэба было плаціць грошы — 150 рублёў за год. Грошы для сям'і калгаснікаў тады непад'ёмныя. Васіль паспрабаваў пайсці вучыцца ў восьмы клас, спадзеючыся, што ўлады здымуць з яго плату за вучобу, як гэта яны рабілі для іншых. Але калі ён звярнуўся з хадайніцтвам у раён, яму адмовілі, пры гэтым дадалі: "Ты што, забыўся, дзе твой бацька? Вось ён няхай за цябе і плаціць". Школу давялося пакінуць. Некаторы час ён працаваў на лесапільным заводзе, у калгасе. А калі яму споўнілася шаснаццаць гадоў, падаўся ў горад, каб уладкавацца на працу. Зрабіць гэта было не проста. У той час сельскія жыхары не мелі пашпартоў. Каб атрымаць яго, неабходна было прадставіць даведку ад праўлення калгаса, што гаспадарка дае на гэта згоду. А каб атрымаць даведку, трэба добра задагодзіць старшыню калгаса, што і зрабілі Васіль са сваёй маці. Пасля добрага частунку старшыня напісаў неабходную даведку. Неўзабаве хлопец атрымаў часовае пасведчанне асобы замест пашпарта.

Вось з гэтай даведкай Васіль і з'явіўся ў камітэт камсамола будоўлі. Тут іх паставілі на ўлік, накіравалі ў камсамольскі гарадок, дзе належала жыць. Гарадок гэты быў палатачны. Такіх велізарных палатак хлопцам раней не даводзілася бачыць. У кожнай з іх было каля двух дзесяткаў ложкаў, якія стаялі на земляной падлозе, побач з ложкам знаходзілася тумбачка для асабістых рэчаў, пасярэдзіне стаяў стол. Вырашылі наладзіць вячэру. Тым больш, што пэўная частка грошай яшчэ захавалася, ды і да таго ж яны атрымалі па сто рублёў так званых пад'ёмных. Скінуліся, прыдбалі, што патрэбна, і рушылі да сваёй палаткі. Расклалі харчы, паставілі гарэлку. За вячэрай пачалося знаёмства з суседзямі па палатцы. Аказаліся тут людзі з розных мясцін, якія, як маглі, апынуліся на будоўлі. Былі і тыя, што прыехалі па камсамольскіх пуцёўках, па вярбоўцы, сярод якіх траплялiся і былыя вязні, што засталіся пасля вызвалення на будоўлі. З цягам часу хлопцы даведаліся пра звычаі і парадкі, што панавалі ў іх палатцы і гарадку. Верхаводзіў у палатцы былы вязень, звольнены з працы. Ён цэлымі днямі ляжаў на ложку. Былому "зэку" ўсе падпарадкаваліся, дзяліліся з ім ежай. Патрабаваў ён гэтага і ад нашых хлопцаў, чаму яны абурыліся. Але ў рэшце рэшт і ім давялося падпарадкавацца. Такія ж парадкі бачылі і па ўсім гарадку. Яго жыхары былі аб'яднаны ў групоўкі па-зямляцкай ці па прафесійнай прыналежнасці. Паміж групоўкамі часта ўзнікалі сваркі і нават бойкі.

Харчаванне было наладжана дрэнна. Сталовая днём пуставала з-за малой колькасці наведвальнікаў, а раніцай і вечарам да яе было не падступіцца. Каб паснедаць ці павячэраць, выстаіш у чарзе не менш як гадзіну, а то і болей. У аўтатранспартнай калоне, куды накіравалі хлопцаў, працавалі зняволеныя, таму тэрыторыя падлягала асобаму рэжыму. З'явіўшыся ў прызначаную ім аўтакалону, хлопцы прайшлі інструктаж. Адным з патрабаванняў забаранялася падыходзіць, а тым больш спрабаваць пралезці праз дрот зоны. Вартавыя могуць страляць. "Дык мы не злачынцы", — нязлосна абурыліся хлопцы. "А як нам вас адрозніць, хто вы?" — адказаў афіцэр. І на самай справе адрозніць іх ад астатніх было немагчыма. А пасля таго як яны атрымалі працоўную спецвопратку — цёмнага колеру куртку і штаны, чорныя чаравікі з бліскучымі гузікамі, зрабіліся падобныя на ўсіх, хто працаваў у зоне.

Потым іх размеркавалі па брыгадах. Васіля прызначылі ў брыгаду па рамонце самазвальных механізмаў. У яе склад уваходзіла дванаццаць чалавек. Усе яны былі палітычнымі, а брыгадзірам сталы чалавек са спакойным характарам, і вельмі інтэлігентны. Неўзабаве Васіль даведаўся, што брыгадзір — былы прафесар, член-карэспандэнт Акадэміі навук, і асуджаны ён за нейкі буржуазны фармалізм у навуковай дзейнасці аж на дваццаць пяць гадоў.

Паступова Васіль і астатнія хлопцы знаёміліся з астатнімі членамі брыгады. Трэба сказаць, што зняволеныя ставіліся да іх добразычліва. Васіль нават пасябраваў з імі. А калі распавёў пра свайго бацьку і ягоны лёс, то яны таксама сталі ставіцца да яго пасяброўску. Раней Васіль не расказваў нікому пра бацьку, ведаў, што не спачуванне сустрэне, а падазронасць, а то і варожасць.

Часта вязні апавядалі яму пра жыццё, распытвалі пра волю, цікавіліся апошнімі навінамі, дапамагалі ў працы. Васіль таксама ставіўся да іх добра. Нярэдка выконваў іх просьбы: то адаслаць пісьмо (з Васілёвай дапамогай яны мелі магчымасць пасылаць больш чым два лісты ў месяц, бо адказы прыходзілі на Васілёў адрас), то закупіць і прынесці прадукты, а часам гарэлку. Бывала, што Васілю даводзілася некалькі разоў за працоўны дзень хадзіць па іх просьбах у краму. Салдаты-вартавыя на КПП разумелі, чаго гэта камсамолец (так звалі ўсіх, хто прыехаў па камсамольскіх пуцёўках) шастае туды-сюды, і не маглі не бачыць аттапыраныя кішэні, але рабілі выгляд, што нічога не бачаць.

Вязні таксама клапаціліся пра Васіля. Праз нейкі час у хлопцаў скончыліся грошы, і прыдбаць ежу не было за што. Пачаўся голад. Хлопцы звярнуліся да кіраўніцтва аўтаўпраўлення, каб ім выдалі аванс, але і атрыманыя трыццаць рублёў неўзабаве разышліся. Хлопцам давялося, каб паснедаць ці павячэраць, задавальняцца соллю з вадой. Саляны камень вагой гэтак кіло пяць ляжаў на адзіным у палатцы стале. Хто яго і калі сюды прынёс, ніхто не памятаў. Жыхары палаткі часта мяняліся — хто пераходзіў у другую, хто звальняўся і ад'язджаў або проста ўцякаў з будоўлі. Дык вось, калі голад прыціскаў, бралі кавалак солі і з здабытым хлебам, а то і без яго, запівалі вадой. Ну а на абед браць з сабой не было чаго, дык хлопцы без абеду і абыходзіліся. Хутка гэта заўважылі вязні і пачалі дзяліцца з імі сваімі абедамі. Абеды зняволеным прывозілі ў працоўную зону, і трэба сказаць, былі даволі някепскія. Яны складаліся з трох страў: на першае — ці то наварысты боршч, ці то булён, на другое — каша з добрым кавалкам мяса, а на трэцяе кампот альбо кісель. Хлеба — колькі хочаш. Хлопцы нават пазайздросцілі вязням. І зусім разгубіліся яны, калі даведаліся, што і на снеданне, і на вячэру вязням даюць таксама добрую ежу, што ў іх лагерах праводзяцца спартыўныя і культурна-масавыя мерапрыемствы, ім рэгулярна мяняюць пасцельную бялізну, водзяць у лазню, апранаюць у сезонную вопратку. І калі хлопцы супаставілі сваё жыццё-быццё з іхнім, то выходзіла, што зняволеныя жывуць зусім някепска. Пра іх клапоціцца дзяржава, а нашы хлопцы, як і ўсе вольныя людзі, жывуць як могуць. Тут "камсамольцы" згадалі, што і жывуць яны ў брызентавых палатках, у якіх днём ад спякоты, а ноччу ад холаду некуды дзецца, што і памыцца ім толькі — душ, а калі хочаш у лазню, едзь у цэнтр горада. А наконт культурна-масавых мерапрыемстваў, дык масавымі, а тым больш культурнымі, назваць іх можна з вялікай цяжкасцю. Быў так званы клуб, размешчаны ў палатцы, дзе ляжалі газеты, часопісы ды шахматы і шашкі. Калі наладжваліся танцы, то яны праходзілі ў невялікім будынку, куды набівалася моладзі столькі, што і прадыхнуць немагчыма.

Цяжка было хлопцам абыходзіцца без ежы ў выхадныя дні. Калі ў працоўныя дні яны абедалі з вязнямі, то ў нядзелю есці не было чаго. Раз-пораз спрабавалі рабіць начныя вылазкі на агароды старажылаў. Але пасля таго, як аднойчы іх адмалацілі кіямі, жаданне такое прапала. І вось аднойчы ў перадвыхадны дзень — субота тады была працоўным днём — вязні брыгады прапанавалі Васілю пайсці з імі ў лагер.

— Як гэта? — здзівіўся Васіль.

— Вельмі проста, — адказалі новыя Васілёвы сябры, — станеш з намі ў калону, мы цябе схаваем, раптам і абыдзецца. А ў лагеры сёння цябе накормяць вячэрай, снеданнем, абедам, вячэрай у нядзелю, у панядзелак паснедаеш і разам з намі прыйдзеш на працу. Заўтра ў нас выступаючыя артысты цыркa, будуць спаборнічаць футбалісты, валейбалісты, сёння вечарам паглядзім кіно.

На такое Васіль не мог не спакусіцца.

Бліжэй да канца працоўнага дня Васілю прапанавалі памяняцца з вязнем вопраткай — больш новую Васілёву на больш зашмальцаваную. Потым выпацкалі Васілёў твар адпрацаваным аўтамабільным маслам, каб прыдаць яму больш сталы выгляд, і запрасілі ў калону. Васіль ахапіў жах, ногі яго не слухаліся, але падбухтораны вязнямі і сваімі сябрамі-камсамольцамі, якія рагаталі над Васілёвым учынкам, рушыў у строй. Вязні ўцiснулі яго ў сярэдзіну калоны, акружылі з усіх бакоў.

Перад тым як падняць шлагбаўм для праходу, зняволеных заўсёды пералічвалі. Так было і на гэты раз. Скончыўшы падлік, салдат-вартавы з КПП не зусім упэўнена аб'явіў: "Адзін лішні". Што тут усчалося! Вязні ўзнялі рогат: "Камсамолец добраахвотна ідзе ў турму! Во давялі людзей на волі, самі ідуць у лагер". Салдат пачаў лічыць другі раз. "Хм, не хапае аднаго", — збянтэжана прамармытаў ён. Калона вязняў была вялікая, больш за сотню чалавек, збіцца з ліку было вельмі проста. Тут вязні яшчэ з большай моцай пачалі рагатаць ды свістаць. З памяшкання КПП выйшаў афіцэр. "Першая шарэнга, тры крокі наперад!" — загадаў ён. Пералічыў першую шарэнгу, потым другую... Васіль зразумеў, што яго выявяць.

— Я пабягу назад, — залепятаў ён.

— Куды ты пабяжыш? Цябе альбо варта застрэліць, альбо сабакі разарвуць, — запярэчылі вязні. — Стой ужо, што будзе тое будзе.

Падышла чарга рабіць тры крокі наперад і Васілёвай шарэнзе.

— Ты хто? — здзіўлена спытаў афіцэр, адразу звярнуўшы ўвагу на Васіля.

— Камсамолец я! — завыў Васіль, — камсамолец!

— Ты чаго гэта, як ты сюды трапіў? — не адразу зразумеў афіцэр.

— Яны сказалі, што будуць мяне карміць, што заўтра ў іх лагеры будзе выступаць цырк, а я яго яшчэ ніколі не бачыў... — размазваючы па твары слёзы, занерваваўся Васіль.

— Хопіць выць! Супакойся! Хто яны? Хто сказаў? — шкуматаў Васіля афіцэр.

І тут Васіль уцяміў, што нельга называць тых, хто прапанаваў яму пайсці ў лагер.

— Дык хто яны? — пачаў злавацца афіцэр.

— Яны... — працягваў хлюпаць Васіль, — я не помню, хто!..

— Ну што ж, тады я здам цябе ў асобы аддзел.

Васіль не ведаў, што гэта за аддзел, але зразумеў — нешта сур'ёзнае.

— Дзядзечка, не трэба мяне нікуды здаваць! У нас скончыліся грошы, няма за што купіць яды, мы толькі адзін раз у суткі абедаем разам з вязнямі, а заўтра нядзеля і абеду ў нас не будзе, а да панядзелка цярпець цяжка, — вось я і падумаў пайсці з вязнямі ў лагер, там і пакормяць, і цырк пагляджу!..

— Адкуль ты? Адкуль прыехаў на будоўлю? — спытаў афіцэр.

— З Беларусі.

Начальнікаў твар пасвятлеў, голас пацяплеў.

— Дык, значыць, зямляк?

Васіль узрадаваўся, спадзеючыся, што цяпер ужо яго ў ніякі там аддзел зямляк-афіцэр не здасць.

І сапраўды, афіцэр стаў дапытвацца пра жыццё на радзіме ды пра абставіны, якія прывялі яго на будоўлю. А на завяршэнне прамовіў:

— Ехаць табе адсюль трэба... У школе давучвацца!..

У памяшканне зайшоў салдат і далажыў:

— Усе вязні на месцы, ніхто не прызнаецца, хто з іх запрасіў камсамольца ў лагер.

— Ладна, вядзіце калону, — загадаў капітан. Потым падышоў да шафы, выняў адтуль два боханы хлеба, некалькі сухіх рыбін: — На, трымай! — Потым, адшпіліўшы кішэнь гімнасцёркі, працягнуў дваццаць пяць рублёў. — Бяры, бяры, — заўважыўшы Васілёва здзіўленне, загадаў капітан. — Ты хоць разумееш, што магло быць з-за твайго ўчынку? Дзякуючы табе мог схавацца і стаць у строй які-небудзь вязень. Ахова павяла б калону ў лагер, а ўцякач пасля спакойна пакінуў бы зону. Гэтага ты не зразумеў? Добра, што ўсё так скончылася. Ідзі і не спяшайся трапіць у турму, хоць і ад яе не заракайся!

— Дзякуй, дзядзечка, — апошнія словы Васіль вымавіў ужо вылецеўшы з памяшкання. І не чуючы пад сабой ног, паімчаўся прэч. За ім спяшаліся яго сябры, распытваючы, што да чаго і як скончылася справа. Даведаўшыся, што афіцэр даў Васілю хлеб і грошы, узрадаваліся. Вырашылі сёння ісці ў кіно, заўтра — паехаць на Волгу. Так дайшлі да сваёй палаткі. Хлеб і рыбу паклалі на агульны стол, запрасілі суседзяў.

— Адкуль такое багацце? — здзівіліся яны.

Васілёвы сябры, смеючыся, сталі распавядаць пра яго паход у турму.

У панядзелак, калі вярнуліся хлопцы з працы, іх сустрэлі з грознымі выглядамі суседзі.

— Дык дзе вы ўзялі грошы? У суботу хадзілі ў кіно! Учора бачылі, як вы каталіся на кацеры па Волзе, потым гулялі на беразе!

*(Працяг на стар. 13)*





# “Под знаком стрельца”

**Рэдакцыя “ЛіМа” атрымала ліст з Брэста ад мастака і паэта Леаніда Валасюка, які прызнаецца: “Пад знакам Стральца я з'явіўся на гэты свет, быў прыняты ў Саюз мастакоў Беларусі. І наогул шмат розных падзей у маім жыцці было звязана з пэўнымі часовымі**




**рамкамі. Памятаючы аб вашай просьбе дасылаць кнігі з глыбінкі, пасылаю і гэту...” А кніга і называецца “Под знаком Стрельца”. Гэта трэці паэтычны зборнік Л. Валасюка. Папярэднія “Блики дня” і “Краски души” таксама пабачылі свет у Брэсце. Аўтар паранейшаму застаецца прыхільнікам кароткага верша-імпрэсіі, у якім гаворыць шмат. Прынамсі, асацыяцыі, што выклікае той ці іншы твор, не пакідаюць абыякавым. Наадварот, як бы актывізуюць думку. Паэт шмат выказвае, але многае і не дагаворвае, дазваляючы чытачу самому па-свойму “дапісаць” тое, што вылілася ў радкі. Больш таго, у лепшых вершах Л. Валасюка адчуваецца мастак, які гэтым разам малюе не пэндзлем, а жывапісуе словам. Малюнак атрымліваецца зрокава выразны і асязальны:**

*Зазвучит забытой песней*
*Ветер в стареньком саду.*
*Я увижу как столетье*
*Носит радость, злость, беду.*
*Зашуршат страницы жизни —*
*Листья на ветру.*
*Паутинкой мысль повиснет*
*Завтра поутру.*

**Паўстае не толькі малюнак прыроды ў яе пастаянным абнаўленні, а сам ход жыцця, бо з падобных змен і складаецца яно як частка:**

*Незаметно лето*
*Заблудилось где-то.*
*Парусом коротким*
*Проплыло вдали.*

*Радугой последней*
*Полоснуло небо.*
*И после обедни*
*Замерли шаги.*

*Вижу старых яблонь*
*Желтые капризы.*
*Красные рябины*
*Зелень стерегут...*

*Незаметно в осень*
*Дни мои бегут...*

**Леанід Валасюк умее быць надзіва лаканічным у выказванні сваіх думак, нярэдка дасягаючы здзіўляючай напоўненасці радка:**

*Падают яблоки*
*Громко в траву.*
*Август —*
*Канун листопада.*

**Чытаючы падобнае, спачатку падаецца, што ўсё проста, а заглыбіўшыся ў сэнс прамоўленага адчуеш, як удаецца паэту мысліць шырока, звязваючы ў адно цэлае тое, што, здавалася б, знаходзіцца ў розных пластах, і зноў жа само жыццё паўстае ва ўсёй сваёй напоўненасці і лагічнай узаемасувязі, калі нічога няма выпадкова і за ўсім свая заканамернасць. Л. Валасюк любіць родную зямлю, Бацькаўшчыну ва ўсёй яе сціплай прыгажосці:**

*В голубом тумане*
*Синие поля.*
*Я тобою ранен,*
*Милая земля.*
*Мне пронзило сердце*
*Васильком во ржи.*
*И ромашкой белой*
*На краю межи.*

**Уся кніга і напоўнена гэтай любоўю. Да зямлі, да чалавека, а пачынаецца гэтая любоў з паэтычнага захаплення.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

КРЫТЫКА

# Скрыпічны ключ паэтычнай сімфоніі XX стагоддзя

Пачатак XX стагоддзя ў беларускай літаратурнай спадчыне — “знаёмы незнаёмец”, бо прадстаўлены і добра вядомымі, хрэстаматыйнымі постацямі і новымі, вернутымі ў кантэкст айчыннага прыгожага пісьменства зусім нядаўна. Як цяжка бывае знайсці баланс паміж “старым” і “новым” у гэтым сэнсе, адшукаць новае ў “старым”, вылучыць асноўнае, фундаментальнае ў “новым”. Поспех у вырашэнні падобнай задачы можа чакаць толькі вопытнага, добра дасведчанага і шырока абазнанага ў сваёй тэме вучонага. Прыемна ўсведамляць, што менавіта так і праявіла сябе Ірына Багдановіч у сваёй новай манаграфіі.

Перыяд станаўлення і росквіту нацыянальнай паэтычнай класікі ў розныя часы і з рознай глыбінёй пранікнення ў тэму даследаваўся цэлай кагортай беларускіх літаратуразнаўцаў: С.Александровічам, М.Грынчыкам, В.Каваленкам, І.Навуменкам, Р.Семашкевічам, А.Лойкам, М.Ярошам і іншымі. Кожны з іх сваім даследчыцкім даробкам прыносіў новыя магчымасці асэнсавання літаратуры папярэдняй эпохі, але толькі пачынаючы з канца 80-х гадоў у рэчышчы агульнага працэсу лібералізацыі пачалі наспяваць і новыя падыходы ў літаратуразнаўстве. Адкрыццё архіваў, рэабілітацыя рэпрэсаваных паэтаў і пісьменнікаў, а значыць, і вяртанне іх твораў, а таксама творчай спадчыны пісьменнікаў-эмігрантаў і святароў — усё гэта дазволіла значна пашырыць абсягі айчыннага прыгожага пісьменства. У новых даследаваннях назіраецца тэндэнцыя да выпраўлення аднабокіх “перакосаў” у літаратуразнаўстве савецкіх часоў, спрадвечна ўласцівае творцам імкненне ad auream mediocritatem — да залатой сярэдзіны. Вось чаму нацыянальна-адраджэнцкае ўсё часцей супастаўляецца з хрысціянска-агульначалавечым. Вось чаму любое наватарства разглядаецца найперш як вынік творчага асэнсавання і ўзбагачэння культурнай традыцыі, калі індывідуальная творчасць пісьменніка спалучае ў сабе момант натхнёнага вынаходніцтва, адкрыцця з працэсам несупыннай, часам падсвядомай, адсорбцыі найбольш блізкага яму культурнага рэчыва. Толькі так можна найбольш поўна прадставіць панараму літаратурнага жыцця на Беларусі ў XX стагоддзі, паступова вяртаючы літаратурнаму працэсу яго жывое паўнакроўнае аблічча. Менавіта з такіх аксіялагічных установак зыходзіць Ірына Багдановіч у сваім манаграфічным даследаванні, якое варта прызнаць наватарскім, бо яно адпавядае сучаснаму падыходу да вывучэння літаратуры, свабоднаму ад ідэалагічных догмаў і забарон.

Аўтарка, якая даўно і сур'ёзна займаецца праблемамі развіцця літаратуры пачатку XX стагоддзя, 20-30-х гадоў, да таго ж апошнім часам грунтоўна працуе і над асэнсаваннем літаратуры XIX стагоддзя, вельмі далікатна і адначасова рашуча аперуе паняццем “традыцыя”. Менавіта з пункту гледжання станаўлення і развіцця традыцый, якія на пэўных этапах перамагаліся “авангарднымі” плынямі, даследчыца і вывучае літаратуру акрэсленага перыяду. Дыпламатычна абыходзячы ідэалагічныя канстанты былых часоў, Ірына Багдановіч праводзіць даследаванне пуцявін развіцця роднага слова ў суаднесенасці з развіццём у цэлым літаратурна-грамадскага руху пачатку XX стагоддзя. Яна характарызуе найбольш значныя культурныя цэнтры і асяродкі тагачаснага літаратурнага руху, прычым шырока абапіраецца на многія архіўныя дакументы, якія раней не былі запатрабаваныя даследчыкамі. Яе ўвагу прыцягваюць таксама творы, што заставаліся па-за кантэкстам літаратуры, былі на доўгі час “рэпрэсаваны”, як, напрыклад, некаторыя вершы Янкі Купалы.

У адрозненне ад папярэдніх даследчыкаў, Ірына Багдановіч адыходзіць ад традыцыі вывучэння рэвалюцыйна-дэмакратычных пачаткаў у паэзіі канца XIX — пачатку XX стст., а больш рэльефна вылучае праблемы нацыянальна-патрыятычнага адраджэння ў сферы ідэй дзяржаўнасці, народнай самасвядомасці і духоўнага разняволення. Гэтыя тэндэнцыі знайшлі сваё адлюстраванне як у творчасці прызнаных беларускіх паэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, так і ў мастацкіх пошуках новай плеяды творцаў Алеся Гаруна, Канстанцыі Буйло, Гальяша Леўчыка, Цішкі Гартнага ды іншых. Дамінантай паэзіі гэтага перыяду даследчыца слушна лічыць нацыянальную ідэю, адлюстраваную ў рэальных, а таксама сімвалічна-алегарычных вобразах “званара”, “музыкі”, “песняра-прарока”, “маладой вясны”, “кветкі-папараці” і да т.п.

Аўтарка манаграфіі добра разумее, што асэнсаванне мастацкай спадчыны — гэта не аформленая раз і назаўсёды адкупнасць устойлівых фармулёвак і цытат. Яна знаходзіць новыя падыходы да інтэрпрэтацыі ўжо добра вядомых, так бы мовіць, хрэстаматыйных твораў, ключавых у спадчыне таго ці іншага пісьменніка, выкарыстоўваючы пры гэтым метад параўнальнай паэтыкі. Менавіта на апошнім грунтуецца змястоўна праведзены даследчыцай аналіз традыцый літаратуры XIX стагоддзя, якія паўплывалі на развіццё літаратуры “нашаніўскай” пары. З гэтых пазіцый яна параўноўвае творы А.Міцкевіча, В.Дуніна-Марцінкевіча, У.Сыракомлі, Я.Лучыны, Ф.Багушэвіча з творамі паэтаў першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя. У сваю чаргу, даводзіць аўтарка, “нашаніўская” паэтычная традыцыя зрабіла значны ўплыў на літаратурны працэс наступных дзесяцігоддзяў, хаця ў 20-я гады шырокай хваляй сцвердзіўся ў паэзіі так званы “бурапенны” пралетарскі “авангард”, нацыянальным перадвытокам якога стала, відавочна, і рэвалюцыйна-агітацыйная паэзія Цёткі. Такім чынам, даследчыца аргументавана прапагандуе і абгрунтоўвае канцэпцыю адзінага звязанага літаратурнага працэсу на Беларусі ў XIX —першай трэці XX стст.

У кнізе “Авангард і традыцыя” упершыню паказаны як знакавыя маласвядомыя дагэтуль творчыя постаці: Зоф'я Тшашчкоўская, Браніслаў Эпімах-Шыпіла — з кагорты “бацькоў”, Алесь Дудар, Язэп Пушча — з пляяды “дзяцей”. Аўтарка прапануе надзвычай цікавае даследаванне рукапіснай хрэстаматыі беларускай літаратуры Б. Эпімах-Шыпілы, якую ён складаў з 1889 па 1931 гады і якая з'яўляецца унікальнай калекцыяй помнікаў беларускай літаратуры XIX стагоддзя, а таксама своеасаблівым “мастком”, як лічыць даследчыца, да літаратуры XX стагоддзя. Пачатак гэтаму збору быў пакладзены на Полаччыне, у мястэчку Селігоры. “Менавіта адсюль, — піша даследчыца, — выцякае струменьчык жывой вады беларускага культурнага адраджэння, які праз Б. Эпімах-Шыпілу і яго рукапісную хрэстаматыю далучыцца да моцнай хвалі нацыянальнага адраджэння і літаратурна-культурнага ўздыму пачатку XX ст.”. У сувязі з даследаваннем хрэстаматыі Эпімах-Шыпілы аўтаркай зроблены навуковыя адкрыцці для беларускай літаратуры і культуры ў цэлым: разгадка асобы Вінцэнта Мяніцкага і значэння яго селігорскай бібліятэкі для развіцця беларускага літаратурнага руху ў другой палове XIX стагоддзя, а таксама адкрыццё ўласных літаратурных твораў Эпімах-Шыпілы.

Шматаблічным і прасякнутым палемічным настроем паўстае са старонак манаграфіі літаратурны працэс 20-х гадоў. Аўтарка прапануе свой погляд на фарміраванне і функцыянаванне эстэтычных прынцыпаў вядомых літаратурных аб'яднанняў 20-х гадоў “Маладняка” і “Узвышша”, заглыбляецца ў сутнасць авангарднай паэтыкі пануючага “пралеткультаўскага” напрамку, абмежаванасць якога намагаліся пераадолець кожны па-свойму розныя паэты. Асаблівай палемічнасцю ў дадзеным кантэксце вылучалася творчая практыка прадстаўнікоў “Узвышша”. Дамінантай апазіцыйнасці тут стала, па сутнасці, супрацьпастаўленне нацыянальнай ідэі пралетарскім ідэалам, што яскрава адбілася ў літаратурных творах гэтага часу, насычаных іншасказаннямі. Цікава ў гэтым плане разгледжана творчасць паэта Алеся Дудара, якая, мабыць, упершыню стала прадметам падрабязнага даследчыцкага аналізу, выяўляючы пры гэтым свае нечаканыя грані. Упершыню Ірына Багдановіч прааналізавала і ўпісала ў літаратурны кантэкст 20-х гадоў жаночую паэзію прадстаўніц “Маладняка” Н. Вішнеўскай і Н. Маркавай, апісала іх стасункі з “маладнякоўскім” асяроддзем на аснове ўласных даследчыцкіх пошукаў і асабістых сустрэч з гэтымі старэйшымі беларускімі паэткамі. І гэта цалкам заканамерна, бо хто, як не таленавітая паэтка, якой “па сумяшчальніцтве” з'яўляецца Ірына Багдановіч, можа зразумець і

*Ірына Багдановіч, “Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння”, Мінск: “Беларуская навука”, 2001.*

# Духоўная спадчына беларусаў

Выдавецтва “Ураджай” выпусціла ў свет кнігу “Сімволіка беларускай народнай культуры”. Яе аўтар — Янка Крук, кандыдат філалагічных навук, даследчык духоўнай культуры беларускага народа, аўтар 4 манаграфій і зборнікаў.

У выданні падрабязна разглядаюцца асноўныя абрады, рытуалы, звычаі беларускага народа, якія суправаджалі чалавека ад нараджэння да пахавальнага вогнішча, а таксама сімволіка колераў, лікаў, кожнага дня, тыдня, спрыяльныя і неспрыяльныя тыдні ў залежнасці ад фазы Месяца. Асобная ўвага ўдзелена космасу сялянскай хаты, асноўным яе рытуальным зонам: чырвонаму куту, печы, парогу.

Зацікаўлены чытач знойдзе ў кнізе адказы на шматлікія пытанні, над якімі, магчыма, і не задумваўся: чаму нявеста на вяселлі ў белым, якой павінна быць фата ў маладой, якім ручніком і як перавязваць сватоў на вяселлі, як правільна адправіць да вянца і сустрэць маладых перад парогам сваёй хаты; якой сістэмы рэгламентацый павінна прытрымлівацца цяжарная жанчына, як выбіраць імя нованароджанаму і хто можа быць хроснымі бацькамі; як правесці абрад першага рытуальнага купання дзіцяці?..

У раздзеле “Чалавек і яго род” аўтар прыводзіць шмат адшліфаваных мудрасцю продкаў паэтычных мініяцюр, з якіх выразна вынікае, што шлюб — гэта наканаваны лёс, гэта адказны крок у самастойным жыцці кожнага чалавека, крок насустрач Вечнасці. Гэта чарговая прыступка ў радаводнай лесвіцы, якая знітоўвае нашы маўклівыя карані і шумлівую крону будучыні.

Трэба адзначыць, што адметнай асаблівасцю беларускага вяселля было адорванне маладой усёй радні маладога: каму сувой палатна, каму пояс, каму намітку. Па прыгажосці падарункаў, па ступені іх мастацкага аздаблення госці ацэньвалі здольнасці і ўменні будучай гаспадыні. Таму як толькі пачынаўся абрад дзяльбы каравая, жанчыны падхоплівалі жартоўную песню:

***Паглянь, Надзечка,***
***Па новай хаце,***
***Ці многа трэба***
***Дароў аддаці?***
***Ой, што куточак —***
***Сядзіць браточак,***
***Ой, што паліца —***
***Сядзіць сястрыца...***

У гэтым гаваркім і гаманкім эпізодзе вяселля як у люстэрку высвечваліся адносіны паміж раднёй, імпэт таго ці іншага госця, яго ўменне прыгожа і далікатна пажадаць маладым дабра і згоды, але адначасова заявіць і пра сваю заможнасць.




На вяселлі таксама выказвалі маладым свае пажаданні.

Вось, напрыклад, сакральна-гімнічная песня, якой распачынаўся самы адказны этап вяселля:

***Ой, дай Божа, добры час,***
***Як у людзей, так і ў нас...***
***Няхай вас Бог благаславіць.***
***Шчасцем, доляю,***
***Векам доўгім,***
***Бытам добрым...***
***Каб адзін аднаго шанавалі***
***І нас, старых, не забывалі.***

І яшчэ. Тэксты пажаданняў яскрава сведчаць: народная паэтычная стыхія чуйна рэагуе на сучасныя рэаліі жыцця, але не паддаецца спакуслівым разбуральным тэндэнцыям, а наадварот, шукае надзейнае выйсце з дапамогай папярэдняга гістарычна-

ацаніць здабыткі творчай лабараторыі каляжанкі па пяры?

Нельга не адзначыць навізну ў падыходах аўтаркі да аналізу творчасці Я.Пушчы, Т.Кляшторнага, П.Шукайлы, дзе даследуюцца так званыя "багемныя" матывы і вобразы як ключавыя, апазіцыйныя пралеткульту. Менавіта яны, на думку даследчыцы, выкарыстоўваліся паэтамі з мэтаю абароны права на свабоду творчасці, мастацкага самавыяўлення.

Манаграфіі Ірыны Багдановіч уласцівая ***сімфанічнасць***, пад якой трэба разумець надзвычай зладжаную архітэктоніку даследавання, што спалучае ў сабе "абразковасць" з элементамі цэласнага, абагульняючага аналізу, часта з выхадам на тэарэтычныя абагульненні. Само літаратурнае жыццё прадстаўленага ў манаграфіі перыяду нагадвае ігру сімфанічнага аркестра, дзе побач з даўно вядомымі інструментамі граюць параўнальна новыя, а часам і зусім нязвыклыя, экзатычныя. Да музычнай (тут — паэтычнай) стыхіі далучаюцца тыя, хто не належаў да яе першапачаткова. У адпаведнасці з такім разуменнем літаратурнага працэсу аўтарка прадставіла як паэтаў такіх вядомых грамадскіх дзеячаў, публіцыстаў і гісторыкаў, як В.Ластоўскі, К.Езавітаў, І.Канчэўскі, Л.Родзевіч. "Музычнасць" манаграфіі акцэнтуецца ўжываннем тэрмінаў адпаведнага семантычнага шэрагу: ад традыцыйных "пясняр", "музыка", "званар", "ліра" да наватарскага "бемольнасць". Кожная новая постаць — новы яркі акорд у сукупным паэтычным канкардансе шматгалосых спалучэнняў. Магчыма, адзіны дысананс прыўнесла спроба аўтаркі надаць вытанчанай і ўзнёсла-імпульсіўнай "пані Тшашчкоўскай" абеларушчаную форму імя Зося. Думаецца, захаванне аўтэнтычнай формы імя аўтаркі "Зоф'я" ніяк не знізіла б ступені далучанасці творчасці паэткі да беларускай нацыянальнай ідэі.

У кнізе Ірыны Багдановіч пераканаўча паказана, што развіццё беларускага літаратурнага працэсу 10—20-х гадоў XX стагоддзя звязана з нацыянальнымі і еўрапейскімі эстэтычнымі традыцыямі XIX - —пачатку XX стагоддзяў. Напэўна, падсвядома, аўтарка пабудавала сваю манаграфію ў санатнай форме, бо першы раздзел яе — экспазіцыя — паказвае пачатак і станаўленне рамантычнай традыцыі ў яе сувязі з мадэрнізмам, другі раздзел — распрацоўка — прадстаўляе розныя шляхі рэалізацыі першапачатковай эстэтычнай устаноўкі, трэці раздзел — рэпрыза — выяўляе розныя спосабы трансфармацыі і мадыфікацыі (або аднаўлення!) рамантычнай і мадэрнісцкай традыцый у новых эстэтычных і грамадска-ідэалагічных умовах. Аўтарка, якая аднолькава прафесійна валодае асновамі антычнага вершаскладання, тэорыяй рамантызму і мадэрнізму, а таксама практычнымі здольнасцямі наватарскага літаратуразнаўчага даследу, з упэўненасцю дырыжора перагортвае старонкі сваёй складанай партытуры і з кампазітарскім майстэрствам ставіць свой скрыпічны ключ на нотным стане сучаснага беларускага літаратуразнаўства.

**Жана НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ,**
**загадчык кафедры класічнай і славянскай філалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта**

культурнага вопыту. Нагадаю толькі некаторыя пажаданні:

*Нядзяляем хлебам, соллю*
*І добрай доляй,*
*Золатам, серабром*
*І ўсялякім дабром!*

*Грошыкі дорыць маці,*
*Каб была добрая гаспадыня*
*ў хаце.*

*Так будзьце ж здаровы*
*І жывіце багата,*
*Як вам пакажа ваша зарплата.*
*Калі ж будзе муж не разіня,*
*Палучыш медаль*
*"Маць-гераіня".*

Трэба падкрэсліць, што кніга "Сімволіка беларускай народнай культуры" не толькі позірк у сівую мінуўшчыну беларускага народа, найперш — гэта клопат пра захаванне і перадачу духоўнай спадчыны продкаў ашчадным і зацікаўленым спадкаемцам.

Гэта кніга, несумненна, будзе вельмі карысная для выкладчыкаў культуралагічных дысцыплін, настаўнікаў, студэнтаў ВНУ, а таксама для шырокага кола людзей, якія імкнуцца спасцігнуць таямніцы духоўнай спадчыны беларусаў. Яна дапаможа глыбей зразумець асаблівасці нашага светаўспрымання і светаадчування, асэнсаваць ролю і месца чалавека ў прыродным ланцужку планеты Зямля і бязмежнага Космасу.

**Іосіф ПАЖОГА**

# Няўлічаная інтанацыя

У самым пачатку дзевяностых мне давялося пісаць у "Литературной газете" пра "Тутэйшых" — гэтак называлася аб'яднанне маладых пісьменнікаў, што ўварваліся ў беларускую літаратуру на перабудовачнай хвалі, а дакладней — на хвалі нацыянальнага адраджэння. Як і бывае звычайна, ад маладой і вясёлай кампаніі засталіся да цяперашняга моманту на слыху два-тры імя; звяртаю ўвагу чытацкай публікі постсавецкай прасторы на Андрэя Федарэнку, самага *цікавага і таленавітага з празаікаў, што тады* з'явіліся, аўтара аповесцяў і апавяданняў, якому давялося прадстаўляць Беларусь у еўрапейскім "Літаратурным экспрэсе — 2000".

Нядаўна з'яўленне яго аповесці "Шчарбаты талер" у аўтарскім перакладзе на рускую мову на расійскім кніжным рынку ("Три талера"), на роўных з камерцыйнымі выданнямі ўмовах — факт знамянальны, што прымушае па-новаму зірнуць на магчымасці высакаякаснай беларускай літаратуры для падлеткаў шукаць свае выхады да юнага чытача. Як пяецца ў апошняй баладзе Уладзіміра Высоцкага да кінафільма "О доблестном рыцаре Айвенго": "если в день испытанья ты слово сдержал — значит, нужные книжки ты в детстве читал", і гэты катэгарычны імператыў асабліва важны ў пераломныя, хісткія маральна эпохі накшталт сённяшняй.

Галоўнае пытанне пра тое, ці здолее зацікавіць расійскага чытача багаты і чыста нацыянальны культурна-гістарычны каларыт аповесці, ці аўтар робіць стаўку выключна на яе прыгодніцкі, дэтэктыўны элемент? Думаецца, гэтак ставіць пытанне неправамерна. Лепшыя кнігі залатога фонду дзіцячай і юнацкай літаратуры заўсёды ажыццяўляліся *"на мяжы" займальнай інтрыгі з гістарычнымі* рэаліямі (як ужо прыгаданы ўскосна Вальтэр Скот), спалучаючы такім чынам прыемнае з карысным.

За мінулае дзесяцігоддзе цэлы шэраг маладых і не вельмі беларускіх аўтараў паспяхова асвойваюць культурнае поле Еўропы пасля больш чым паўвекавой адсутнасці на ім. Але тыя з іх, хто не паспеў трапіць у перакладзе на рускую мову на старонкі часопіса "Дружбы народов" да 1990 года, практычна невядомыя ў Расіі. Менавіта ў 1990 годзе на рубяжы эпох у Мінску выйшла першая кніжка прозы А. Федарэнкі "Гісторыя хваробы". Здарылася так, што творы маладога (1964 года нараджэння) аўтара мною чыталіся ў зваротным парадку: спачатку апошнія — "Шчарбаты талер" і аповесць "Нічые", напісаная на гістарычным матэрыяле, пра Слуцкі збройны чын 1918 года, якая выклікала ў Мінску супярэчлівыя водгукі, у тым ліку рэзка негатыўнае стаўленне нацыяналістычных артадоксаў.

Аповесць, якая адкрывае першую кнігу пачынаючага празаіка і якая дала назву зборніку, "Гісторыя хваробы", вяртае нас гадоў на пятнаццаць назад — нават дзіўна, як усё змянілася за такі кароткі тэрмін — дык вось, больш за ўсё падкупляе яе абсалютная праўдзівасць, упісанасць у рамкі найноўшай гісторыі, той самы пах часу, раствораны ў паветры і ўвасоблены праз слова, гэта значыць, сапраўдная дабротная проза. Ужо пры чытанні першай аповесці маладога празаіка прыемна ўражвае яго літаратурны вопыт, вытанчанасць кампазіцыі, што нагадвае пабудову "Героя нашага часу" — дзённікі і пісьмы няўдачнага студэнта Верамейчыка, які фатальна загінуў "на бульбе" пад коламі выпадковай машыны, уначы, калі з кампаніяй студэнтаў вяртаўся пасля танцаў з суседняй вёскі — публікуе пасля яго смерці малазнаёмы з Верамейчыкам сусед па інтэрнаце; і многае, многае з уласнага студэнцкага юнацтва ўспомнілася, пакуль чытала апісанне гэтага начнога поля; "дымок спаленага жніва", як і пах сухога бульбяніка — пах Радзімы, якую з лёгкага радка Міхаіла Юр'евіча любім мы дагэтуль "странной любовью"...

Апавяданні гэтага першага зборніка разнастайныя па змесце і па форме, радасць дачынення да аўтара, які тонка адчувае і нестандартна мысліць, не пакідае чытача да апошняй старонкі. Пры гэтым першая кніга — скажам, забягаючы наперад, як і другая — адметныя канкрэтыкай тых гадоў, звязаных з рухам "адраджэння", гэта значыць адраджэннем нацыянальнай культуры: зборы подпісаў за паўсюднае ўвядзенне беларускай мовы, эйфарыя мітынгаў і сходаў, у якіх пагалоўна ўдзельнічаюць маладыя і не вельмі персанажы прозы А. Федарэнкі. Прачытаная праз дзесяць гадоў пасля напісання, кніга падсветлена вопытам горычы і расчараванняў, перажытых за гэтыя гады, і што здзіўляе — прадчуваннем якіх павявае з яе старонак. Уражвае ўнутраная свабода маладога аўтара, які адразу, пры першым сваім з'яўленні "на полі" беларускай літаратуры, мае смеласць не шарангавацца, не дэклараваць тое, што ад яго ў дадзены момант чакаюць, а пакарыстацца адноснай воляй, што з'явілася тады, каб проста быць *самім сабой. А гэта абыходзіцца надта дорага* ва ўсе часы! Ёсць у А. Федарэнкі ў другой кнізе адметная фраза — ён гаворыць, што пахваліць у першыя гады перабудовы штонебудзь з застойных гадоў не даравалася гэтак жа, як станоўчае выказванне пра царызм у трыццатыя гады — і дзіўна (гэта ўжо не ўскосная цытата, а мае ўласныя разважанні), што браць урокі з перажытага нам зноў няма калі...

Ён прыйшоў з "Тутэйшымі", але не стаў адным з іх, застаўся без апоры на групу, і гэта адбіваецца цяпер: многія з тых, хто зрабіў сабе імя (і грошы) на спрыяльнай хвалі, пачынальнікі "новай беларускай культуры", што прыйшлі разам з ім і якія дазваляюць сабе замахнуцца на аўтарытэт самога Янкі Брыля, ужо валодаюць выдавецтвамі, размяркоўваюць месцы на Алімпе і памеры ганарараў; Андрэй Федарэнка — толькі пісьменнік, затое пісьменнік, як кажуць, літасцю Божай, ён шмат піша, жывецца яму нялёгка.

Другая кніга яго прозы названа "Смута" (1994 год выдання) — яна складзена з дзвюх аповесцяў і дзесяці апавяданняў; пры чытанні зноў перажываюцца тыя ліхаманкавыя скачкі грамадскай свядомасці, адчуванне ўнутранай і знешняй нестабільнасці задае тон кнізе і *сілкуе сюжэты ўсіх амаль твораў, што* ў яе ўвайшлі. З фантастычных малюнкаў пра школьнае самакіраўніцтва — з першай аповесці, што дала назву зборніку — вырасце ў далейшым той самы "Дэтэктыў для хлопчыкаў і дзяўчынак", з якога пачалося знаёмства з пісьменнікам. І Чарнобыль не мог абысці ўвагай малады аўтар, ураджэнец Гомельскай вобласці, але і гэта па-свойму, неардынарна: у апавяданні "Бляха", сюжэтна звязаным з самым вядомым апавяданнем Міхася Стральцова "Смаленне вепрука", напачатку апісваюцца будні тых, хто застаўся жыць на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях — гэта старыя і "лузеры", тыя, хто і раней, да ўсякіх Чарнобыляў заставаліся на ўзбочыне жыцця. Гэткім з'яўляецца нікчэмны мужык па мянушцы "Бляха" — толькі цяпер адчуў ён сваю чалавечую значнасць, аказаўся самым дзеяздольным з тых, хто застаўся на "зоне": яго запрашаюць нямоглыя старыя забіць кабанчыка. Але эйфарыя волі нядоўгавечная для слабых — і на гэтых брудных землях, у ізаляцыі ад астатняга свету не даюць чалавеку проста жыць — дажываць, сферы ўплыву падзелены, на людзей, што засталіся тут, на свежае мяса накладаюць лапу грабежнікі... Сцюжа, змрок, выццё здзічэлых сабак, пад завыванне ветру, *беспакаранасць зла. Богапакінутасць гэтых* мясцін — усё гэта перададзена пераканаўча і праўдзіва. Калі зграя здзічэлых сабак нападае на грабежніка, і з енкам аб дапамозе ён стукаецца ў хату да ім жа абрабаваных старых, нікім не паважаны, гэтым жа хлопцам збіты Бляха вырашае ісці па фельчара, у сцюжу і змрок, і гіне, як праведнік, "за други своя", разарваны сабакамі насмерць — чытач перажывае катарсіс, як і належыць пры сустрэчы з сапраўднай літаратурай.

Але што можа даць надзею, аднавіць душэўную раўнавагу, без якой немагчыма само жыццё? Два словы — "смута" і "сум" — блізкія па гучанні, але для першага бліжэйшы сінонім "мяцеж", а для другога — "журба", та самая, пра якую сказаў паэт: "Мне грустно и легко, печаль моя светла..."

Два апавяданні з другой кнігі Андрэя Федарэнкі чытаюцца як супрацьяддзе любой смуты грамадскай свядомасці, пераносячы цэнтр увагі са знешняга жыцця да ўнутранага, у родныя для аўтара мясціны, да адчування ранняга юнацтва: гэта апавяданні "Пеля" і "Адзін летні дзень". Кожны, хто чытае апошняе, прыгадае хоць адзін летні дзень са свайго ўласнага позняга дзяцінства — ранняга юнацтва, у сваіх блізкіх сэрцу мясцінах: "Святлей за той, *падлеткавы*, сум у мяне пасля ў жыцці нічога больш не было...", — так банальна, так відавочна, так непарушна. Лаўлю сябе на тым, што мне хочацца апраўдвацца — навошта кажу і так відавочныя рэчы, чыталі-слухалі ў свой час, такіх адкрыццяў хапае, што ж у гэтым новага, сённяшняга?

Нагадаю тое, з чаго пачала — з літаратурнага майстэрства празаіка, з яго кампазіцыйнай вытанчанасці, з прасякнутасці рэмінісцэнцыямі і асацыяцыямі з папярэднікаў: ужо прыгадвалася пра сюжэтную пераклічку са Стральцовым у "Блясе", у апавяданні "Адзін летні дзень" можна прасачыць кампазіцыйны ход з таго ж "Смалення вепрука" — аўтар нібыта не піша, *а толькі расказвае чытачу пра задуму* апавядання, пра намер яго напісаць. Ёсць у гэтым жа апавяданні сваімі словамі пераказаная карцінка з рамана Івана Мележа "Людзі на балоце" — падзяляю з Андрэем Федарэнкам гэтую трапяткую любоў: нарадзіўшыся на Палессі, аўтар уяўляе, як стаяць пад вішнямі Васіль з Ганнаю, і што нядоўгім будзе іх спатканне, ужо ідуць з абрэзамі кулакі... Класічная літаратура — гэта тыя творы, якія былі прачытаны ў юнацтве, з таго часу проста раствораны ў крыві, і героі якіх для нас рэальней за рэальнасць: здаецца, што мы самі былі ўдзельнікамі апісаных у іх падзей. Імёны Чэхава і Талстога таксама ўпісаны ў тэксты яго прозы. Такое ўспрыманне літаратуры, яе "кніжнасць" — галоўны папрок для тых, хто ўступаў у літаратуру ў семідзесятыя гады — цяпер з'яўляецца адным з найбольш характэрных яе паказчыкаў, складае адну з неад'емных яе, сённяшняй літаратуры, прыкмет.

Апавяданне "Пеля" вылучаецца не толькі ў гэтай кнізе — гэта пакуль, як мне падаецца, найбольшая "вышыня", узятая аўтарам, які прызнаецца ў пасляслоўі (а другая кніга Федарэнкі надзелена не толькі ўласнай прадмовай і ўласным пасляслоўем аўтара, *якое называецца "да магчымага чытача"* і выклікае яго на зваротную сувязь), што напісана было гэтае апавяданне, у адрозненне ад іншых, неpraўдападобна хутка, на адным дыханні, за дзве гадзіны — у тыя якраз часы, калі ўсе сродкі інфармацыі трубілі пра ГКЧП, калі распаўсюджаныя ўяўленні пра дабро і зло, пра што заўгодна проста на вачах мянялі знакі на процілеглыя, і матыў балота, хісткасці глебы пад нагамі быў інтуітыўна намацаны аўтарам як самы актуальны і атрымаў сваё паўнацэннае ўвасабленне. Але не толькі хісткасць і няўстойлівасць азначае для Федарэнкі, як і для Мележа, балота — для тых, хто нарадзіўся на гэтай глебе, дрыгва, балотца, пеля ёсць яшчэ і абарона ад іншародных нашэсцяў, ад чужародных уплываў. У апавяданні стыхія начнога балота, што не выпускала аўтара і выклікала першапачаткова яго прыкрасць і злосць, які спазняецца з-за гэтага на поезд, што ідзе ў Крым, — потым, выявілася, ўратавала яго ад непазбежнай амаль пагібелі...

Калі пакаленне, што прыйшло ў літаратуру ў канцы семідзесятых — пачатку васьмідзесятых, можна было назваць "згубленым" — адсутнасць пазітыўнай грамадскай ідэі так альбо інакш аказвае разбуральнае ўздзеянне на талент, але насуперак сказанаму пакінула некалькі яркіх імёнаў, то пакаленне Федарэнкі, што з'явілася ў свет у яго "хвіліны ракавыя", якое "призвали Всеблагие как собеседника на пир", па кантрасце з папярэднім можна назваць "знойдзеным". Здаецца, гэты тэрмін ужо ўжываецца ва ўкраінскім літаратуразнаўстве і крытыцы. Але прайшла хваля, сышла пена — і застаюцца не пакаленні, а асобныя імёны: я рада, што няхай і з дзесяцігадовым спазненнем, але спазнала аднаго з лепшых сучасных беларускіх празаікаў. Для рускага чытача цяжка будзе перакласці тую асаблівую, няўлічаную дагэтуль інтанацыю, якую ўносіць менавіта беларуская літаратура ў агульнасусветны літаратурны працэс, і моўная блізкасць не дапамога тут, а перашкода: так падобна, але — іншае, няхай і нягучнае, але сваё! Асаблівасць характару, няўлічаная інтанацыя як следства асаблівасцяў гісторыі і геаграфіі зямлі, праявіліся мацней за ўсё ў галасах самых тонка адчувальных і таму асабліва ранімых беларускіх пісьменнікаў — Максім Багдановіч, Іван Мележ, Міхась Стральцоў у іх ліку. Кожны, хто ведае беларускую літаратуру, мае права прадоўжыць свой ланцужок імёнаў. Але калі ў мяне будуць зноў настойліва пытацца тут, у Маскве: што ж на самай справе адбывалася апошнія дзесяць гадоў і адбываецца цяпер у Беларусі, мне ёсць цяпер што адказаць: чытайце Андрэя Федарэнку!

**Люба ТУРБІНА**





# “Згадкі Нясвіжа”

**Нясвіж адзін з нямногіх нашых гарадоў, якія так шмат гавораць сэрцу беларуса. А таму і гавораць, што ў іх на кожным кроку адчуваецца дыханне мінулых часоў і, трапляючы сюды, лішні раз упэўніваешся, якая багатая нацыянальная гісторыя. У Нясвіжы нельга не згадваць і шматлікіх слаўных сыноў Бацькаўшчыны. Гэта і славуты род Радзівілаў. Гэта і выдатныя асветнікі. Гэта і слынны Уладзімір Сыракомля, які прысвяціў Нясвіжу сем санетаў “Згадкі Нясвіжа”. Але лепш дамо слова вядомаму літаратуразнаўцу і перакладчыку, нястомнаму руплівцу на ніве беларуска-польскіх літаратурных стасункаў і ўзаемасувязяў Уладзіміру Мархелю: “У часе Уладзіслава Сыракомлі Нясвіж перажываў заняпад пасля двухсотгадовай славы Радзівілаў. Але гэта не перашкодзіла паэту праз усё жыццё пранесці ўдзячнасць заняпаламу мястэчку з багатай гісторыяй: тут ён вучыўся ў павятовай школе пры дамініканскім кляштары, тут служыў у канцылярыі кіраўніцтва**




**радзівілаўскімі маёнткамі і вывучаў архівы маярату, каб напісаць артыкул пра мінулае мястэчка для “Старажытнай Польшчы” Міхала Балінскага”. І далей: “У краязнаўчым нарысе “Вандроўкі па маіх былых ваколіцах” (1853) вясковы лірнік прысвяціў Нясвіжу самы аб’ёмністы раздзел. З мястэчкам лучыцца таксама змест яго паэмы “Школьныя часы” і паэтычная рэмінісцэнцыя “Ілюмінацыя”. У Нясвіжскай фары ў красавіку 1844 года Сыракомля абвянчаўся з Паўлінай Мітрашэўскай. Адсюль ён павёз жонку ў прынёманскі фальварак Залуча, дзе яму было наканавана ўсвядоміць сябе паэтам і ў 1844 годзе напісаць цыкл санетаў “Згадкі Нясвіжа”, санетаў, якія пазначаны энергіяй паэтычнага светасузірання, узнятага па-над утылітарнасцю быцця”. Гэтыя словы сталі прадмоўкай да санетаў Сыракомлі, якія выйшлі асобным зборнічкам. Тэксты пададзены паралельна на дзвюх мовах: па-польску і ў перакладзе У. Мархеля. На падобнае размяшчэнне адважыцца не кожны перакладчык, бо чытач, які ведае мову арыгінала, лёгка можа адчуць магчымыя пралікі. У дадзеным жа выпадку ён лёгка пераканаецца, наколькі У. Мархелю ўдалося захаваць сам дух сыракомлевай паэзіі, яе ўнутраную сутнасць і найбольш блізкі беларускамоўны варыянт. У гэтым лёгка ўпэўніцца і пазнаёміўшыся з санетам “Замак”, тэкст якога вынесены і на вокладку: на першай старонцы — пераклад, на чацвёртай — арыгінал:**

*За возерам шырокім гожае мясціны*
*Стаіць каменны старац —*
*і падчас вячэры*
*Ён з вежы збеглыя*
*вызвоньвае гадзіны,*
*Пакуль апошніх хвіль сваіх*
*не выб’е меры.*

*Ў грудзях яго, як у грудзях*
*старых жаўнераў,*
*Пра чын і дзеі толькі даўнія*
*ўспаміны, —*
*Цяперашасць і мінуласць ён*
*з пагардай зверыў,*
*Бо знаў бацькоў — з сыноў*
*смяяцца ёсць прычыны.*

*Ці ажыве? Ці ўскрэсіць*
*ён даўнейшасць лёсаў,*
*Па-радзівілаўску —*
*не адышла надзея —*
*Яшчэ дзед вежамі сягае да нябёсаў,*

*Пільнуецца гербаў*
*і папяровых стосаў,*
*Бы святасці, якая —*
*Божа! — спарахнее,*
*Як слова без значэння, як трава*
*без росаў.*

**Хораша ажывае даўніна і ў іншых санетах. Застаешся ўдзячным У. Мархелю, а таксама Польскаму інстытуту ў Мінску, што гэтая кніжка з’явілася.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

ПАЭЗІЯ

## Уладзімір КАРЫЗНА



*Гэту песню, гэту радасць,*
*Хто кахаў, — той знае.*

## Цішы бор не знае

(песня)
*Бор красой жывою*
*У раку глядзіцца,*
*Дзе жар-птушкай сонца*
*У віры садзіцца.*

*Ластаўкі там кружаць*
*Спеўнымі кругамі,*
*Рэчку абдымаюць*
*Цёплымі крыламі.*

*Як з віроў глыбокіх*
*Вецер узаўецца —*
*Бор неспадзявана*
*Шумам узарвецца...*

*Цішы не бывае,*
*Цішы бор не знае,*
*Бо такі ён сэрцам,*
*Бо душа такая...*

*Я туды не ў госці,*
*А дамоў прыходжу,*
*Для душы стамлёнай*
*Песню там знаходжу.*

*Сіла векавая*
*Сэрцам спазнаецца,*
*Як — і сам не знаю,*
*Мне перадаецца.*

## Санет

**Унучцы**

*Мелодыю чакае чуйны слых.*
*На скрыпачцы сваёй зайграй мне, Насця,*
*Хай па смычку збяжыць мне*
*ў сэрца шчасце*
*Хоць на кароткі вечаровы міг...*

*Так летуценна граеш ты накцюрн —*
*Якое бліскавічнае імгненне,*
*І дорыць яго мілае натхненне*
*Тваіх святых і самых чулых струн!*

*Душу не ўзрушыць яркае радно —*
*Зварушваеш ты родныя святыні,*
*Якія д’ябал апусціў на дно.*

*Чаруеш у вячэрняй звонкай сіні,*
*І зоркі, як прыгожыя вяргіні,*
*Табе кідае вечар у акно.*

## Спявак Анатоль Падгайскі

*Ад грому і маланкі*
*Ён радзіўся,*
*Таму і песня яркая была.*
*Ён з ёй яшчэ ў калысцы парадніўся,*
*Яна ад сэрца к сэрцу павяла.*

*Ніхто й не думаў,*
*Што ў хлапчыне русым,*
*З блакітнымі вачыма — ад азёр! —*
*Была душа жытнёвай Беларусі,*
*І ў ёй шумеў вяршынямі наш бор.*

*Маланкамі*
*Успыхвала дарога,*
*Дзе ён хадзіў,*
*Дзе з песнямі бываў!*
*Ён, пасядзеўшы за сталом у Бога,*
*Агонь той боскі шчодра раздаваў...*

*Сын грому і маланкі —*
*Быў стыхіяй:*
*Непрадказальны, асляпляльны ён!*
*А на стыхію — погляды такія...*
*Знаёмыя яшчэ з далёкіх дзён, —*

*І абарвалі дзіўную дарогу,*
*І песню, што падорана яму.*
*Яе ўжо больш няма. Яна — у Бога,*
*І па яе схадзіць няма каму.*

## Цітовічаў чароўны хор

**Мастацкаму кіраўніку,**
**народнаму артысту Беларусі,**
**прафесару Міхасю Дрынеўскаму**

*Сябе пачуеш ты свабодным,*
*Душы разбудзіцца прастор,*
*Як заспявае наш народны —*
*Цітовічаў чароўны хор!*

*Над шумнай Нараччу авацый*
*Не хор, а сцяўся родны край:*
*Бярозкі вытанчаных грацый...*
*І салаўіны дзіўны грай!*

*О песень матчыных крынічка,*
*Табе скажу я, не схлушу:*
*Твой кожны гук гарачай znічкай*
*Прасветла падае ў душу.*

*Ты, як учора, так і сёння,*
*Калі бяда або няўрод,*
*Даеш усім нам хлеб надзённы —*
*Ратуеш песнямі народ.*

*Магутны хор, у бітве вострай*
*Рок-музыка не знае меж,*
*І ты — як нескароны востраў*
*І як апошні наш рубеж...*

## Санет

**Песня — душа народа.**
**Рыгор ШЫРМА**

*Па нашай песні тамагаўкі б’юць —*
*Рок-музыкі пачварная навала.*
*Той песні, што нас вечна ратавала,*
*Апомніцца чужынцы не даюць.*

*Бо знаюць, што яна для нас з табой,*
*Як знак зямлі, красы людской і хлеба,*
*Душа народа, чыстая, як неба,*
*Часінай запаветнай веснавой!*

*Ах, яны добра знаюць мой народ:*
*Яго не скрышыш смутай і нягодай*
*У здрадны час, не разаб’еш, як лёд.*

*Ліхою, ашалелаю свабодай!*
*Ды песню адбярыце вы ў народа —*
*І можна пакарыць тады народ.*

## І спявала тая птушка

(песня)
*Маладзенькая бяроза*
*Над ракой стаяла.*
*Да бярозы маё сэрца*
*Птушкай прылятала.*

*І спявала тая птушка,*
*Як салоўка маем.*
*Гэту песню, гэту радасць,*
*Хто кахаў, — той знае.*

*Словы тайна гаманілі,*
*Як лісткі бярозы.*
*Загараліся ад песні*
*Месячык і росы.*

*Тую песню як прыпомніш —*
*Сэрца замірае...*
*Дзе салоўка заліваўся,*
*Там груган лятае.*

## Таемнасць цішыні

*Вецер дзьме ў саломку цішы,*
*Вецер квецені белай і рос,*
*Раздзімае вугольчыкі ў золкай душы —*
*І запальвае зоркі нябёс.*

*О сіняя таемнасць цішыні,*
*Агнём нязнаным сэрца ахіні,*
*Спалі мой боль! Не маю сілы больш...*
*І нават хмарку ветрам прагані.*

*За сялом, у туманным гаі,*
*Дзе не спяць а ні казкі, ні сны,*
*Заспявалі адзін за адным салаўі —*
*Аж у сэрца кальнулі яны!*

*Азёраў сінь, нябёсаў зорных сінь*
*Далі нам вечар і забралі дзень.*
*І ты, душа, і сум і боль адкінь*
*І засвяціся зоркамі надзей.*

## Зоркі золкае каханне

(песня)
*Пакахала светлым сэрцам*
*Зорка цёмнае азерка*
*той вясной,*
*Як азерца залатою*
*Зазіхцелася красою*
*незямной.*
*Абудзілася каханнем*
*Хваль азёрных калыханнем.*
*Пошум хваль*
*Да пралескаў дакрануўся —*
*Кожны лісцік страпянуўся,*
*заспяваў.*

*Зоркі золкае каханне,*
*Незямное пачуццё.*
*Усю ночку да світання*
*Ні то сон, ні то жыццё.*
*Зорка-зорачка ў азерцы*
*Прыгажосці незямной,*
*Растрывожыла ты сэрца*
*Незабытай чысцінёй.*

*Пакахала светлым сэрцам*
*Зорка цёмнае азерца.*
*У гэту ноч*
*Не звядуць з яе святліцы*
*Неспакойныя сястрыцы*
*сумных воч.*
*Будзе зорка мілавіцца,*
*У азерцы хваляваца,*
*сэрцы грэць,*
*Каб у хвалях на світанні*
*З незямным сваім каханнем*
*дагарэць.*

ПРОЗА

**1**

Сімпатычная журналістка міла ўсміхалася з тэлеэкрана ўжо на фоне паўднёвага марскога пляжа і пальмавых дрэў.

– Такім чынам, — працягвала яна, — адзіная сістэма кантролю за патаемнымі кампартыйнымі рахункамі ў замежных банках хутчэй за ўсё аказалася па чыёйсці магутнай волі ліквідаванай. На яе месцы ўтварылася некалькі (магчыма, мноства) незалежных княстваў. Адно з іх, як паведаміў карэспандэнту французскага ўплывовага штотыднёвіка “Пары-матч” буйны аналітык ЦРУ, знаходзіцца вось тут, на “востраве скарбаў”, дзе калісьці любілі захоўваць нарабаванае золата піраты Карыбскага мора. Гэта — Кайманавы астравы. Цяпер тут пабудаваны шыкоўныя атэлі і надзейныя банкі, якія выплачваюць высокія працэнты, а тайну ўкладаў захоўваюць не горш, чым “швейцарскія гномы”. Агенты ЦРУ здолелі прасачыць, што з Расіі буйныя сумы ідуць спачатку ў Швейцарыю ці Англію, а затым асядаюць у сталёвых сутарэннях банкаў на Кайманах. Сюды, на пах золата, пацягнуліся расійскія бандыты, а таксама каманды агентаў дзяржбяспекі, пры чым у супрацоўнікаў ЦРУ склалася ўражанне, што некаторыя з апошніх дзейнічаюць самі па сабе... А гэта месца на Кайманах, якое асабліва любяць нуворышы з Расіі — востраў Аруба. Напэўна, асабліва прыемна песціцца на паўднёвым ласкавым сонцы, адчуваючы на сабе нябачныя промні блізкага золата, якое цяпер належыць ім...

Усе ў пакоі глядзелі на экран, нібы зачараваныя, кінуўшы свае справы. Адна Зоя, здаецца, успрымала інфармацыю спакойна. Спакойна зірнула яна і на Маркевіча, калі той падсеў побач. Але затым у вачах мільганула ласкавае здзіўленне.

– Чаму не заходзіш? — ціхенька спытаў Маркевіч, кранаючыся прыемна цёплай Зоінай далоні.

– Падалося, табе гэтага не хочацца. — Зоіны шчокі па-дзіцячы запунсавелі.

– Вось і памылілася... А я ўжо падумаў іншае. — Маркевіч памарудзіў, прыкідваючы, як лепей спытаць пра галоўнае, пацікаваў на экран, дзе зіхацела раскоша атэляў і пляжаў на Кайманах, прамовіў: — Скажы, ключ не мог трапіць каму-небудзь яшчэ?

– Ён... заўсёды тут, — Зоя паклала руку на сваю сумачку, яе шчокі запунсавелі яшчэ гарачэй, у вачах мільганула разгубленасць. — Вазьмі, вось.

– Ды не, я хачу, каб ён заставаўся ў цябе, — прашаптаў Маркевіч, зноў накрываючы далонню руку Зоі, у якой вузенькім лязом ужо бліснуў злашчасны ключ. — Няхай усё будзе па-ранейшаму. О’кэй?

І тут яму цюкнула ў галаву ідэя...

Не чакаючы рэакцыі Зоі, ён імкліва, але стараючыся не звяртаць на сябе ўвагу, накіраваўся да тэлефона і набраў свой хатні нумар. Сігнал адтуль быў працяглы, за ім гэткі ж другі. Трэці... Маркевіч з раптоўнай палёгкай на душы пачаў ужо пасмейвацца з уласнай дурной падазронасці, калі на тым канцы шчоўкнула і мужчынскі голас з робленай лянотаю і крыху ў нос буркнуў: “Ало...”

Мароз працяў Маркевічу патыліцу і папоўз па хрыбетніку: адказваць у пустой кватэры на званок мог хіба прывід яе ранейшага ўладальніка-небаракі, які скончыў тым, што ў адзіноце павесіўся.

– Кватэра Маркевіча? — хрыпла спытаў ён.

“Пі-пі-пі...” — пачуліся ў трубцы гудкі адбою. І па іх кароткім піпіканні можна было адназначна пераканацца, што папярэдняе “ало” з пустой кватэры — не вынік ягонага трызнення пасля амаль бяссоннай ночы.

– Я дадому, — прашаптаў ён здзіўленай Зоі на вуха. — Паведамі, калі што са мной, Хросіку і... Ладна, пабег, бывай!

Куртку нацягваў, збягаючы з лесвіцы. Добра, што машыну перагнаў ад Хросіка на стаянку каля іхняй “скрыні”. Міжволі ўзняў галаву, адчуваючы, што нехта на яго глядзіць. Ля акна стаяла Зоя. Маркевіч не мог бачыць выраз яе вачэй, але ўсё роўна на душы стала цяплей. Наперад!

На хаду азірнуўшыся, ускочыў у свой пад’езд і націснуў кнопку ліфта. Той, дзякаваць Богу, працаваў. Было чутно па шуме матора. Кабіна некалькі хвілін не паказвалася, нехта ездзіў па верхніх паверхах. Дзеці забаўляюцца? Нарэшце стукнула на другім паверсе, а праз мінуту прыйшоў ліфт. Пусты. Маркевіч азірнуўся — нідзе нікога.

Першае, што ўбачыў на сваім паверсе, — незачыненыя дзверы з агульнага калідора на ліфтавую пляцоўку. Асцярожна падступіў да сваёй кватэры і прыслухаўся... Ціха. Уставіў ключ у замок — ішоў туга, заядала.

Толькі калі адчыніў дзверы, успомніў, што раніцай зрабіў метку, каб ведаць, ці кранаў іх хто старонні. Урэшце, без розніцы: абвостраны, бы ў звера, нюх улоўліваў такі яўны пах чужынца, што здавалася, нехта знаходзіцца побач. Але імкліва агледзеўшы ўсе куткі свайго жытла, убачыў толькі адно — гэтым разам тут нечага шукалі ўжо не цырымонячыся. Ага, вось яно што: ён жа сам звера і спудзіў. Магчыма, той, хто выйшаў з ліфта на другім паверсе, і быў перад тым ягоным няпрошаным госцем.

Імкліва выйшаў у калідор і пазваніў у 25-ю кватэру. З хвіліну там было ціха, і Маркевіч падумаў ужо, што сляпога куды-небудзь павяла з сабою маці — час ад часу гэтак здаралася. Праўда, цяпер сляпы і сам навучыўся вобмацкам выбірацца на двор. Тады ён стаяў на ганку, адвярнуўшыся ад прахадной пляцоўкі, каб людзі не цікавалі на ягоныя бельмы. Гэта быў прыгожы хлопец, выгляд толькі псавалі пашкоджаныя вочы. Адразу пасля вяртання з Афганістана ён уцягнуўся ў п’янку, а на падпітку станавіўся дзікім і небяспечным, да

# ПАЧАТАК ПАЛЯВАННЯ

Эрнест ЯЛУГІН

***2001 год запомніцца не толькі тым, што я стаў сведкам драмы расчаравання мноства разумных людзей ад чарговай нашай выбарчай кампаніі. Для мяне асабіста год нарэшце вызначыў дату, калі была пастаўлена фінішная кропка новага рамана "Алжырская пастка", над якім я працаваў болей за тры гады. Па сутнасці, завершана, мяркую, тэма, што калісьці пачалася раманам "Астравы", — пра тое, як беларускі хлопец усталёўваецца ў Алжыры. Спачатку ў складзе студэнцкага будаўнічага атрада, затым — па кантракце ў якасці спецыяліста па трактарах. Едзе ў Алжыр пераможцам, з маладой жонкай, поўны радасных планаў, не ўяўляючы, кім давядзецца вяртацца: параненым і... без жонкі, якая вырашыла застацца на Захадзе. Галоўны герой рамана Маркевіч потым, ачуняўшы, спрабуе жонку адшукаць. Безвынікова. Пра тое быў наступны твор — аповесць "Год-другі ў Алжыры". І вось нечакана нават для мяне, аўтара, ужо ў сённяшні час алжырскія "грахі" Маркевіча зноў нагадалі аб сабе самым непрыемным, дакладней — трагічным чынам. Аднойчы Маркевіч зразумеў, што па нейкіх прычынах апынуўся ў "зоне павышанай увагі" добра арганізаванай і бялітаснай сілы. Але што гэта за сіла і як ад яе ўратавацца? Зачыненыя на замок дзверы ўласнай кватэры ёй не перашкода. Некуды неадкладна збегчы? Відаць, не ўдасца. Рабіць тое, што загадаюць, змірыцца? Ці перці "на ражон", каб хаця дазнацца —- чаму яго выбралі? А заадно паспрабаваць абараніць блізкіх, адпомсціць за зняважу і пачуццё мярзотнай прыніжанасці і страху?***

***Прапаную шаноўным чытачам раздзел з рамана "Алжырская пастка", які я абазначыў як гістарычны і крымінальны.***

**АЎТАР**

ўсіх прыдзіраўся, ягоная маці была ў адчаі. Пакуль аднойчы ў п'янай разборцы прыёмам каратэ яму не ўрэзаў нехта па вачах.

– Хто? — пачуўся з-за дзвярэй голас сляпога.

– Лёня, гэта сусед, з дваццаць сёмай кватэры.

– Ведаю. Што хацелі? —- сляпы ўяўна не хацеў адчыняць дзверы.

– Скажы, у маю кватэру нядаўна заходзілі? — Маркевіч ад нечаканасці ўздрыгнуў, калі аб ягоныя ногі пацёрся кот.

– Заходзілі, — упэўнена сказаў сляпы. — А праз некалькі мінут прыйшлі вы.

– Колькі было чалавек, як мяркуеш?

– Я ж сказаў — адзін. Потым — у ліфт.

– Выйшаў на другім паверсе?

– Не магу пэўна сказаць...

Раптам дзверы прыадчыніліся. Роўна настолькі, каб у вузкую шчыліну праслізнуў кот.

**3**

Маркевіч уважліва агледзеў сваё жытло, апаскуджанае нейкім падонкам. Што шукалі? З шуфляды выцягнуты нават старыя пласцінкі, ці, як цяпер іх прызвычаілася называць моладзь, — кружэлкі. Асобна ляжала кружэлка Надзеі Плявіцкай, якую ён калісьці амаль нелегальна прывёз з Алжыра разам з кружэлкамі Умм Кульсум і арабскімі нацыянальнымі мелодыямі. Чаму Плявіцкая ляжыць асобна? Дасталі ў апошні момант? Ці таму, што на ёй зроблены надпіс? Калісьці, уражаны, Маркевіч па-французску запісаў назву горада, дзе Плявіцкая, знакаміты "курскі салавей" і прыгажуня, зблытаўшыся з савецкім КДБ, скончыла ўрэшце жыццё ў катаржнай турме, — Рэнн.

Так... Самае аптымальнае — падсцерагчы падонка, калі ён сюды вернецца, і тады настойліва спытаць — што яму трэба ў чужой кватэры? Даць зайсці — і за шкірку. Хутчэй за ўсё, візіцёр няйнакш ці не з "канторы" яго ранейшай сяброўкі — Лінды.

Але навошта сур'ёзнай канторы мая сціплая асоба? — задаў сабе пытанне Маркевіч. А калі там думаюць, быццам ён хавае якую дакументацыю БНФ? А "кантора", безумоўна, сочыць за БНФ. І яго маглі ўзяць "пад каўпак" пасля той сутычкі з амонаўцам. Рыта ў іх на прыкмеце, даўно, сама казала. А Зоя? А Хорсік? Тады ўжо трэба адсочваць ці не палову іхняга аддзела. А колькі такіх яшчэ ў Мінску? Але халера ведае магчымасці гэтай д'ябальскай "канторы" і яе схільнасці.

Плюнуць? З'ехаць сапраўды куды на тыдзень, як чамусьці раіла Лінда? І няхай тут усё пераварочваюць, каму ўздумаецца. Ён адчуваў, як памалу яго ахоплівае ціхая зацятасць, якой Маркевіч у сабе крыху нават пабойваўся. Уваход у такі стан азначаў, што нейкая частка яго дзеянняў станавілася незалежнай ад аналітычнага цэнтра мозгу. Маркевіч іншым разам гэтага свайго "цвярозага розуму", як казала яго цётка-нябожчыца, саромеўся. Тым не меней ён з дзяцінства мусіў з ім лічыцца — безабаронны шчанюк, адзінокі на белым свеце, калі не лічыць цётку. Бывала, пасля нейкіх учынкаў, зробленых пад уплывам эмоцый, імгненных пачуццяў, з аналітычнага цэнтра паступаў вырак: дурань ты дурань, чокнуты. Атрымаў па пысе? А цяпер мне клопат — шукаць выйсце. Глядзі, так можна і ўвогуле галаву згубіць. Амаль тымі ж словамі яго ўшчувала цётка. Царства ёй нябеснае.

Значыць, нават ва ўласнай кватэры так і дажываць век безабаронным? Падняў з падлогі раскіданыя паперы, не праглядаючы, паклаў на край стала. Так... Памяняць замок. Але гэта калі б скарыстоўваўся ключ. А такая верагоднасць адпадала. Адчынялі адмычкай і вельмі спрактыкавана. Прафесіянал дзейнічаў, няйнакш. Так... Пакольні вобыск не завершаны, падонак хутчэй за ўсё аднойчы вернецца. Значыць, будзе сачыць за табой. А ты прасочыш у сваю чаргу, калі злодзей улезе ў кватэру? Чаму б не? Узважыў у руцэ турысцкую сякерку. Не, секануць ён змог бы хіба ўначы, у гарачцы, каб хто напаў знянацку. Пагражаць бы можна. А калі гэтым справакуеш напад? Канешне, гэта будзе, трэба меркаваць, не амбал, цішком лезуць у кватэры звычайна не вельмі кідкія з выгляду, а спрытныя. Займець бы міліцэйскую дубінку. Ці газавы пісталет. Корпаючыся ў скрыні са старым інструментам, наткнуўся на невялікі малаток, які калісьці прывёз з Крычава ад цёткі. Адзіная рэч, што засталася яму ў спадчыну ад дзеда. Малаток прызначаўся для кляпання касы ў асноўным. Маркевіч памахаў ім, прымерваючыся, і засунуў за пояс. Цяпер знайсці месца, з якога можна неўпрыкмет назіраць за ўласнай кватэрай. Але спачатку неяк паказаць, што ты нічога такога не заўважыў і пайшоў сабе на службу, бестурботна пасвістваючы.

Якая ўсё ж трасца сюды прывабіла нейкага гада? Пра што ведае ці здагадваецца Лінда? А раз замешана яна, значыць сапраўды, як бы ў гэта ні хацелася верыць, тут нешта звязана з прафесійнай цікаўнасцю "канторы". Уяўная памылка, калі так. Але сказаць пра тое "канторшчыкам" можна хіба сустрэўшыся ў кватэры і схапіўшы паскуду за шкірку.

Маркевіч дастаў з шуфляды грошы-заначку, у тым ліку трыццаць шэсць долараў. Малавата. Улетку хавацца танней — прабраўся б электрычкай на свой садовы ўчастак ды зашыўся ў будан на колькі сутак.

Так і не здолеў вось паставіць пакуль прыстойны дамок, пра які марыў, калі атрымаў участак. Якое ахапіла хваляванне, калі выцягнуў у працэсе жараб'ёўкі нумар свайго пляца, — адразу паімчаў на месца! Зверыў нумар з шыльдачкай на сотках, памацаў вуглавыя калкі на межах тых сотак, а потым сеў на зямлю, адчуў яе пад сабой і з нязнаным раней захапленнем мармытнуў: "Мая!" Нешта падобнае ён перажыў толькі, калі з выпісаным ордэрам адчыніў дзверы выдзеленай яму кватэркі-аднапакаёўкі. Такога высокага пачуцця не было нават, калі атрымліваў інстытуцкі дыплом інжынера. Розныя праявы яго прыватнага шчасця...

Унізе, перад тым, як выйсці з ліфта, пастаяў, прыглядаючыся. Нічога падазронага, было чутно, як у суседа-адстаўніка з трэцяй кватэры мітынгова шумеў папугай. "Парр-тия! — гарланіла птушка. — Перр-ст-рройка!" Во дае! памятае ж, хоць цяпер людзі на сваіх сходках, калі на гэта нехта адважваецца, выгукваюць іншыя лозунгі і заклінанні.

Па лесвіцы з другога паверха сыходзіла купка гаваркой моладзі. Пачуўшы папугая, засмяяліся дзяўчаты. Маркевіч счакаў, пакуль моладзь са смехам і жартачкамі рассаджвалася ў "мазду". На сваім "запарожцы" ён умудрыўся стартаваць першым, але ўжо праз якую хвіліну яго імкліва абагналі. Хай сабе. Нават выдатна. "Мазда" пачала аб'язджаць падкову суседняга дома, а ён крутануў улева, пад арку. З паўночнага боку дарога горшая, затое тут яго складана адсачыць.

З Лагойскага тракту павярнуў на вуліцу Багдановіча, адтуль на Сурганава. Ля акадэмічнага інтэрната спыніўся, зайшоў у гастраном, купіў бохан хлеба, трыста грамаў варанай каўбасы і літровы пакет кефіра — студэнцкі харчнабор мінулых часоў. З тэлефона-аўтамата пазваніў на службу і папрасіў Хорсіка аформіць яму пяць дзён адпачынку за ўласны кошт. Начальства ў мэтах эканоміі фонду зарплаты такое цяпер вітала. Хорсік хацеў падрабязнасцей, але Маркевіч сказаў: "Потым, сябра", — і павесіў слухаўку. Ніякага "хваста", здаецца, не было. На ўсякі выпадак пакруціўся па вуліцах. Заехаў пад арку. Адсюль, не вылазячы з машыны, зручна назіраць за пад'ездам і вокнамі сваёй кватэры. Калі сцямнее, можна пад'ехаць бліжэй.

**4**

Сцямнела раней, чым разлічваў — насунулася змрочная хмара і сыпанула ледзянымі крупамі. Давялося падбірацца амаль да свайго пад'езда, усё роўна ў такую завіруху пазнаць машыну практычна немагчыма нават з трох крокаў, а назіральнік, калі такі ёсць, павінен быў хавацца недзе ў пад'ездзе ці на лесвічнай клетцы суседняга дома. Выходзіць, сама менш метраў за сорак-пяцьдзесят. Калі ўжо не заскочыў неўпрыкмет у ягоную, Маркевічаву кватэру. Апошняе меркаванне прымусіла пакінуць утульную кабіну і падставіцца пад чэргі ледзяной шрапнелі. Твар засланіў далонню. Гэтак жа рабілі ўсе, хто ўскокваў у ліфтавы тамбур пад'езда. Электрычнага асвятлення яшчэ не было, і людзі торкаліся ў змроку.

На сваім паверсе не стаў уключаць лямпачку, навобмацак дайшоў да кватэры, адамкнуў дзверы, ціха адчыніў, трымаючы ў руцэ малаток... Падобна, ніхто няпрошаны пакуль не наведаўся. Засунуўшы малаток зноў за пояс, выйшаў у калідор, уключыў там святло і націснуў кнопку званка кватэры сляпога. Праз хвіліну той непрыязна спытаў:

– Хто?

– Лёня, зноў я, Маркевіч. Прыходзіў хто? — ціха спытаў.

– Не, — коратка адказаў сляпы, не адчыняючы дзвярэй.

– Табе што-небудзь патрэбна?

– Я ж сказаў: нічога, — у голасе сляпога адчувалася раздражненне.

Вярнуўся да сябе і паставіў грэцца чайнік. Адначасова, сочачы за плітой, слухаў зводку апошніх паведамленняў па радыё. Начальства агітавала за яшчэ цяснейшае зліццё з Расіяй, абяцаючы тады імклівы рост дабрабыту насельніцтва. Маркевіч быў не супраць інтэграцыі, лічачы, што так будзе прасцей атрымліваць энерганосьбіты. Хаця тое, што рабілася ў вялікай усходняй суседкі, уражвала: уражваў размах цынічнага казнакрадства, масавыя нявыплаты мізэрнага заробку многія месяцы, тэхналагічныя аварыі, замярзанне багатага на карысныя выкапні Прымор'я на Далёкім Усходзе. Неверагодна. А ці можа даць Расія грошай на пераабсталяванне прадпрыемстваў, калі сама бясконца просіць у заходніх краін? Каб раскрасці затым мільярды. Ды і самі новыя тэхналогіі, не кажучы пра грошы на іх, можна набыць толькі на Захадзе. Успомніў сказанае неяк цесцем: "Нафтадолары прафукалі маскоўскія архараўцы, цяпер Саюзу капцы. Нічога не ўратуе, нават каб новы Сталін з'явіўся. Не дай Бог, каб яшчэ вайной не скончылася. Тады Беларусь разнясуць ракетамі ў першую чаргу".

Трэба неадкладна наведаць былога цесця. Хутчэй за ўсё той дажывае лічаныя дні. Скончылася эпоха, якую ён расхвальваў у сваіх лекцыях, а з ёю, бач, і жыццё гэтага таленавітага і зусім недурнога чалавека. Канешне, у свой час за дабрабыт ён прадаваў талент д'яблу бальшавізму, а цяпер вось канаў разам з камуністычнай імперыяй. Але апошнім часам нехта яго вельмі напалохаў. Сапраўды скрадзена фатаграфія дачкі, Веранікі? Што ў цесця яшчэ шукалі? А што шукаюць цяпер у яго самога? Супадзенне? Ці ўсё сказаў яму "цесць" у часе апошняй сустрэчы?

"Чаго я толькі туды ўблытаўся" — у каторы раз у раздражненні падумалася Маркевічу.

А пачаўшы больш дэталёва супастаўляць дзеі вакол "цесця", Браніслава Антонавіча, і цяпер яго самога, раптам прыйшоў да думкі, якая яму зусім не спадабалася...

...У сне з некім біўся, усё стараючыся разгледзець аблічча ворага. Так і не здолеў — той знік у натоўпе каля цырка.

...За ноч нічога не здарылая. Можа, яго ўсё ж пакінулі ў спакоі? Тым не меней, паснедаўшы, засунуў пад куртку малаток, узяў кейс і бадзёрым крокам выйшаў у ранішні холад двара, вітаючыся са знаёмымі суседзямі-аўтаамататарамі. Паблукаўшы па ваколіцах, дварамі вярнуўся пад знаёмую арку. Аказалася, тырчаць на скразняку — зусім не тое, што займацца назіраннем з кабіны аўтамабіля, няхай сабе і з няспраўным абагравальнікам. Праз гадзіну-паўтары адчуў, што мерзнуць ногі. Да таго ж раз-пораз хто-небудзь праходзіў міма, здзіўлена зыркаючы на ягоную скурчаную постаць. Цяпер вось непадалёк поркаецца ў смецці алкаш з шызым, зарослым сівым шчаціннем тварам. Ладна, сёння трэба пратрываць. А пакуль перабрацца ў які бліжэйшы пад'езд. А чаму б не ў свой? Можна рамантаваць паштовую скрынку, якую сапраўды трэба хоць крыху прывесці ў прыстойны выгляд пасля чарговага вандалізму чокнутых малалеткаў. Толькі прабрацца неўпрыкмет.

Што, здаецца, і ўдалося, калі да ягонага дома пад'ехаў аўтафургон і вакол увішна засноўдалі нялоленыя хлопцы "каўказскай нацыянальнасці", як іх прызвычаіліся называць. Вось па-сапраўднаму жыццяздольны народ, без усялякай непрыязні, а тым болей зайздрасці падумалася Маркевічу. Ён змалку, дзякуючы цётцы, настаўніцы біялогіі, зрабіўся стыхійным дарвіністам. А хутчэй — мальтузіянцам: выжываюць тыя, хто гэтага асабліва прагне.

З паштовай скрынкай давялося павалэндацца: малалеткі-дэгенераты, якія ў сям'і ленаваліся пачысціць ад бруду ўласныя красоўкі, з нейкай вар'яцкай стараннасцю ў цемры карабацілі тыя ж паштовыя скрынкі і ўсё астатняе, што траплялася пад рукі.

Ён так захапіўся рамонтам, што некалькі разоў не заўважаў, хто ўваходзіў у ліфт. Не, лепей падняцца на свой паверх і пастаяць у тамбуры перад выхадам на лесвіцу — слых у яго, дзякаваць Богу, добры, а цяпер і абвастрыўся. Маркевіч адчуў, што прагаладаўся. Трэба, відаць, да вечара прыпыніць паляванне. Пайсці ў кватэру, зашчапіцца, зварыць кавы і, смакуючы яе, уключыць відэаплэер з алжырскай касетай...

**5**

Ужо ўставіўшы ключ у замок, падумаў: варта было б вось за кім паназіраць, за Ліндай, якая дала гэтую дзіўную параду на тыдзень адлучыцца з Мінска. Паехаць у Кунцаўшчыну, спыніцца каля гандлёвага цэнтра — звычайна ці не ўсе жанчыны скіроўваюць спачатку туды, а потым ужо з пакупкамі тупаюць дадому... Ну вось, ключ зноў заела. Але неяк па-іншаму, чым раней... Нехта поркаўся адмычкай? У мазгах нібы званочак дзінькнуў: а раптам!.. Толькі не спяшацца і ціха адчыніць дзверы...

Узў у правую руку малаток, левай асцярожна націснуў на клямку. Лепей за ўсё захапіць "госця" ў працэсе "працы". У выпадку агрэсіі — малатком па прадплеччы. Любы падазроны рух ён рашуча сустрэне ўдарам малатка...

Дзверы падаюцца свабодна. Значыць, за імі нікога? Яшчэ крыху... Яго імкліва рванулі ўперад. Ён, забыўшы ўсе свае нядаўнія намеры, чыста інстынктыўна ўзмахнуў малатком — і глухая кароткая лаянка прышэльца засведчыла, што гэта не спадабалася. Рэзкая падсечка збіла яго з ног, адразу ў патыліцы жахнуў невыносны боль, па вачах разанула святло маланкі, а наступнай секундай ён ужо праваліваўся ў цёмную прорву бяспамяцтва...

...Знаёмае адчуванне: цёплыя кроплі капалі яму на твар. Салёныя. Расплюшчыўшы вочы, убачыў над сабой заклапочана-спалоханы дзявочы твар. Зоя! Яна тут адкуль? А тая вільготнай хусцінкай асцярожна дакраналася да ягонага віска і ціха плакала. Але ж самы моцны боль у патыліцы...

– Прывітанне, — мармытнуў ён і сеў, ужо шкадуючы, што гэта зрабіў. Аберуч схапіўшыся за галаву — так раптам забалела, ажно пацямнела ўваччу. — Ты адкуль узялася?

Зоя па-дзіцячы ўсхліпнула і акунула хусцінку ў міску з вадой.

– Паслалі ў Белпраект, а калі вярталася, падумала — трэба зайсці... Проста так. А ты тут валяешся ў прыхожай, кроў, кішэні вывернутыя. Я так спалохалася, думала... Хто цябе? Хацела выклікаць міліцыю, "хуткую дапамогу", а провад абарваны.

– Нічога не трэба, — хрыпнуў Маркевіч. — Я сам вінаваты: паслізнуўся, як бачыш. Але нічога.

– Ага. — Зоя шмыгнула носам. — Такі гузачына на патыліцы і візок рассечаны. Як гэта здарылася?

– Доўга тлумачыць, — Маркевіч зірнуў на гадзіннік. — Ого! Чатыры з чвэрткай. Вось гэта, называецца, драмануў. Ну, нічога.. Нічога... Зможаш згатаваць кавы? — як мага спакайней звярнуўся ён да ўстрывожанай Зоі. — А я пакуль адрамантую провад і патэлефаную па дробязнай справе.

Зоя кіўнула і моўчкі пайшла на кухню.

Не адразу ўспомніў нумар тэлефона, які прадыктавала Лінда, а варушыць мазгамі было балюча. Сатрасенне? Магчыма, калі валяўся без прытомнасці. Ну... Паспрабаваў успомніць па асацыяцыі — што тады бачыў навокал, урэшце, як круціўся дыск тэлефоннага аўтамата... Стоп! Які дыск? Там былі кнопкі. А кнопкі лёгка ўспомніліся...

– Вось і я, — бадзёра прамовіў, пачуўшы ў слухаўцы завучанае "ало" Лінды. Ого! Як быццам чакала ягонага званка. —- Даруй, што тэлефаную. Так вось выйшла. Дакладней, нічога ў тваіх прыяцеляў не атрымалася. Тое, што яны шукалі, знаходзіцца ў іншым месцы. Зразумела?

– Ты безнадзейны дурань, — замарожаным голасам азвалася Лінда. — Ведаць цябе не хачу...

У слухаўцы частыя гудкі адбою. Лінда, падобна, псіханула і, канешне, болей не адгукнецца, калі патэлефанаваць зноў. А ўвогуле і не трэба: ён паспеў сказаць тое, што задумаў, самую сутнасць. І амаль не сумняваўся — ягоныя словы дойдуць па прызначэнні, няхай сабе сама Лінда (у гэта яму хацелася верыць) да справы не мае дачынення.

Зоя глядзела на яго з жахам.

## "Анёльскі сімпозіум"

Кніга паэзіі Грышы Цясецкага, яшчэ зусім юнага (сёлета яму споўнілася 16), але адоранага пачаткоўца, "Ангельский Симпозиум" з'яўляецца несумненнай удачай новай хвалі маладой нацыянальнай літаратуры. Імёны юных паэтаў — Валеры Куставай, Вікі Трэнас, Вікторыі Куфціной, Алесі Серады, а цяпер і Грыгорыя Цясецкага, ужо на слыху ў сталічнага літаратурнага асяроддзя. Ягоная кніга ў вялікай ступені перадае стылёва-пошукавую манеру, у якой сёння працуюць пачаткоўцы. Гэта, з аднаго боку, выкарыстанне традыцый акадэмічнага пісьменства, заснаванага ўпершарадзь на школе сімвалістычнай паэзіі.

З другога боку, Г. Цясецкаму, як і большасці юных творцаў, характэрна празмернае захапленне манерай аўтаматычнага пісьма і неабдуманае скарыстанне вопыту постмадэрнісцкіх тэхналогій. Таму пра высокі ўзровень імпрэсій, змешчаных у кнізе і напісаных у падобнай манеры, гаварыць, на жаль, пакуль не даводзіцца. Але, як кажуць, і Вільня не адразу будавалася. Асноўную задачу, якую абумовіў зборнік, што выйшаў у выдавецтве "Тэхнапрынт", — заявіць новага, адоранага творцу, — аўтар у кнізе выканаў.

Дж. Дз.

## Шкляны цуд

У Навасадскай сярэдняй школе адбылася персанальная выстава Аркадзя Новіка. Для мастака, які ў свой час выстаўляўся 17 разоў у Ленінградзе, двойчы — у Маскве, Мінску і шмат разоў у Барысаве, падзея, магчыма, не вельмі значная. А вось для мясцовых педагогаў і вучняў яна, безумоўна, неардынарная.

У адкрыцці выставы бралі ўдзел жывапісец Уладзімір Макараў, мастацтвазнаўца Таццяна Брацянкова. Дзеці чыталі вершы. Сам Аркадзь Патапавіч адказаў на пытанні наведвальнікаў. Сялянскі хлопец з Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці ў свой час закончыў Ленінградскія мастацкае вучылішча і Вышэйшую мастацка-прамысловую акадэмію. Пачаў працаваць у жанры прыкладнога мастацтва, выраблюць з каляровага шкла фігуркі жывёлін, птушак, цэлыя кампазіцыі, прысвечаныя прыродзе роднага краю. Яны зіхацяць усімі колерамі вясёлкі, выклікаюць замілаванне, наводзяць на глыбокі роздум.

Сцяпан БУКАЦІЧ

г. Барысаў

## "Куток лірыкі" ў "Беларускім часе"

Па прапанове чытачоў газета "Беларускі час" увяла ў гэтым годзе на сваіх старонках "Куток лірыкі". У ім ужо змешчаны вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Анатоля Вялюгіна, Еўдакіі Лось, Аляксея Пысіна, Сцяпана Гаўрусёва, Кастуся Кірэенкі, Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Сяргея Грахоўскага. Вядзе рубрыку Генадзь Бураўкін.

ПАЭЗІЯ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ



Айчына. А чаму?..

Глядзіш услед пытанню,
Як ластаўчынаму
Палёту, шчабятанню...

### Уцёкі

"Я ўцёк з Радзімы..."
Адам МІЦКЕВІЧ

Працяг нябёс зацьмілі крумкачы,
І страшна стала — хоць ты ў ноч крычы,
І ён з Літвы надумаўся ўцячы,
І выбіраў краіну межавую,
А ўцёк ён — мову выбраўшы чужую.

За выбарам адным паўстаў другі:
Жытло чужое, не свае даўгі,
І ўрэшце — на чужой зямлі магіла...
Хіба яго Радзіма не любіла,
Ён быў не крэўны ёй, не дарагі?..

Дык за свае ці продкавы грахі,
Альбо па нечай патаемнай змове
З Радзімай развялі яго шляхі
У неадольным — у радзінным слове?

І да якой мужыцкае страхі
Яму вяртацца на памежнай мове
З малітваю: "Літво! Ойчызно моя..."

### П'янка

У пакоі, замглёным ад дыму,
Непрытомным амаль ад віна,
Трое
 поўныя шклянкі падымуць
І налітае вып'юць да дна.

Утаропяцца ў сцены. Запаляць.
Вочы ў вочы няўтульна зірнуць.
Ні за што не зачэпіцца памяць —
І яны налiваюць і п'юць.

Трое — з Менска, з Бярэсця, з Гародні —
Ледзьве знаюць адзін аднаго,
Дык з чаго яны п'юць так гаротна?
Проста так.
Проста п'юць.
Ні з чаго.

Бо пакуль на абшарах Айчыны,
Што ўсё толькі збіраецца быць,
Аніводнай не знойдзеш прычыны,
Каб не піць.

### Успамін пра Беларусь над магілай Марынгейма

Геній Купалы і Коласа геній,
Дзякуй, што даў нам... Але заклінаю:
Госпадзі! Сіла твая незямная!
Дай ты нам хоць аднаго Марынгейма!..
Хай у чатыры бакі пастраляе.

●

Вялікдзень. Сонечна. Званы.
Хрыстос васкрос. Чакаюць дзіва.

Антыхрысты прыйшлі з вайны;
Без дай чаго рабіць, яны
Хрыстосуюцца сарамліва.

●

Пацалавала ў чало
І засмяялася...
Гэта амаль што было
Тым, чым здавалася.

Што, як са срэбрам эмаль,
Музыка з голасам,
Злітна зраслося амаль —
І раскалолася.

Што заблукала, як боль
Сэрца паблізу,
Не паўтарыўшыся больш
Нават прыблізна.

●

У сваім народзе
ты жывеш,
У чужым народзе
пражываеш,
Як ідзеш сабе самому ўсцеж
І хады сваёй не адчуваеш...

### Самалёт

Першы раз за ўсё жыццё
Новы год
 у адзіноце —
І такое пачуццё,
Як адзін
у самалёце.

Што ж, і так яно бывае...
І нябёсаў пасярод
З пляшкі корак выбіваю:
— З Новым годам, самалёт!

●

Яшчэ нічога не было
І ўсё ўжо сталася —
Дрыготка,
Як па вадзе азяблай лодка,
Завеславала, паплыло...

Такое сталася са мной,
Што невыносна, немагчыма!..
Адна Айчына за плячыма —
І анікога за спіной.

●

Знаю: любая дарога вядзе ў бездарожжа.
Ды праміную агні і паўстанкаў,
 і станцый...
Толькі таму, хто нідзе заставацца
 не можа,
Лёс дазваляе
аднойчы
дзе-небудзь
застацца.

●

Усё, што ўбірае пагляд,
Напрамку не мае:
Сад-Верасень... Дым-Лістапад...
І дым застаецца, і сад —
Пагляд прападае.

Знікае.
Душу ледзяніць
Над дымам, над садам...
І вецер сустрэчна глядзіць
Тым самым паглядам.

Мікола МЯТЛІЦКІ



## Санеты Чарнобыля

1

Сцяжыны лёсу пазаплёў палын,
Бальшак Жыцця жарства
 наўсцяж укрыла.
І восенню пустэльною паныла
Шугае ў небе жураўліны клін.

І толькі мой балесны прыпамін
Імкне на ўлонне шчасця лёгкакрыла —
Там памяць дні калішнія ўзвіхрыла,
Пунсова рдзее гронамі калін.

Мне зноўку час адкрыўся беззваротны —
І адступіўся травастой смяротны,
Вяскоўцы звычна крочылі сцягой.

Быў іхні дзень. Быў іхні рух мне бачны.
Жыцця галасам упіваўся Бабчын.
І не было рэальнасці другой.

2

Ступаю ў лес — падсушаным сіўцом
Хрусціць дарога спудна і сіроча.
Хваін сцяна, як тая патароча,
Гарбаціцца за бліжнім азярцом.

Цячэ рака Жыцця. Яе плыўцом
Душа пачуць сябе ніяк не хоча,
Бо ветру ўзвей пагрозліва шапоча,
Нібыта Божы свет — перад канцом.

І шнырыць смерць па выселеных хатах.
Насенне зла схавана ў чорных спратах,
Чакае зноў сусветнага сяйва.

Рыпіць напята лёсу калымага.
Глядзіць сляпое вока саркафага
Удалеч з-пад графітнага брыва.

3

Клады кусты акацый аплялі,
Крыжы збуцвелі, мытыя дажджамі.
Маланкі, паласуючы крыжамі,
Жагнаюць шыры мёртвае зямлі.

Нямыя зоркі, нібы вугалі,
Раздзьмутыя сусветнымі вятрамі,
Падкажуць: ты — удзельнік
 вечнай драмы
З дакладнай назваю "Жылі-былі..."

Спадае неба ядзернай шугой,
Даводзячы: няма зямлі другой,
Жыць гэтай у душы тваёй да скону.

Ступаючы зыбучаю жарствой,
Ты ў згоды знак ківаеш галавой,
Дыханнем грэеш выстылую зону.

4

Амшэлыя дрыгвянішчы балот
Пачылі ў часе. Сцішаныя клеткі,
Каналамі пасечаныя, сведкі
Тых дзён, калі рыкасты свой паход

Вяло на бросню камарыных вод
Апусташэнне. Дуб, астатнік рэдкі,
Шацёр ускіне ўдалечы. Дым едкі
Паўзе з лаўжоў падалыш за ржавы дрот.

Сканала гала. Ядзерным засевам
Над кветкай кожнай і над кожным дрэвам
Прайшоў жахотна-помны красавік.

Глядзяцца ў неба адзічэлых клетак
Тугой расстайнай вочы жоўтых кветак —
Абула смерць венерын чаравік.

5

Лісіны груд сінее сон-травой,
Не калыхнецца радасным галасам

Абсяг вясновы. Змораная часам,
Глухая ціш агусла ў шатах хвой.

І толькі неба барвай агнявой
Заход пазначыць. Зоркавым папасам
Пакрочыць месяц —
 сполашным грымасам
Не будзе ліку над зямлёй сівой.

Жахнуцца ўладзе смерці. Тут яна
Крыніцы ператруціла да дна
І, ўсцешная, касу нясе высока.

І толькі гляне ранак агнявы:
Засіненае вочка сон-травы
Зірне няўцям — вясны жывое вока.

6

Бруіцца Прыпяць у жвірах праменных,
Між ніцых лоз жывы крышталь святла.
Забыты ўзмах рыбацкага весла.
Самоціцца чырвоны бакен лены.

Вірухай смерці носяцца рэнтгены,
Бяда гняздо на шмат вякоў звіла,
І водны плёс — сама пуціна зла,
Якой Харон плыве праз час нятленны.

Ён гоніць човен сінім шляхам водным
Пад небам абыякавым, халодным,
Ускінуўшы сівую галаву,

Здавён заняты промыслам выгодным,
А я, душу суцішыўшы, заву
Абсягі пекла й сёння краем родным.

7

Зямля мая забылася пра жыта.
Не пружыстая хваля збажыны
Гадзінай шараю калыша сны —
Ў палын-гарчак туга яе павіта.

Вядзе Зямлю высокая арбіта.
У раструбе касмічнай гаманы
Хто ўчуе нас? Ў сусвеце мы — адны.
Ўчынілі змоўчна зло і — шыта-крыта.

Глядзіць мігценнем зор сусвет халодны,
Бы ведае: наступіць час бясплодны
І згіне жыццядайная Зямля,

На промнях радыяцыі бязвінна
Згібее, як самотная жанчына,
Што нарадзіць не здатна немаўля.

Анатоль ЗЭКАЎ

# Пра бацьку без выдумкі

## Дзевяць літар

*Пры ўездзе ў нашу вёску, у нейкай сотні метраў ад чыгуначнага пераезду, над асфальтавым шляхам навісаюць нацягнутыя на металічныя слупкі, што зроблены ў выглядзе стылізаваных жытнёвых каласкоў, дзевяць выпіленых драўляных літар, якія складаюць слова ПАТАПАЎКА.*

Некалі, праводзячы мяне з дому да цягніка на Мінск, бацька кіўнуў:

— Мая работа, — і не без гонару дадаў: — Па тры рублі за кожную заплацілі...

На той час, калі ён атрымліваў у саўгаснай сталярцы 60 рублёў, а бохан хлеба каштаваў 14 капеек, гэта і сапраўды былі немалыя грошы. Хаця наўрад ці імі вымяраецца бацькаў гонар!

## "Малайчына, сынок!"

Калі бацька вучыўся ў школе, то нярэдка здаралася так: пойдзе раніцай з дому, а на ўроках няма. То ж, казаў мне неяк, рэзаліся ў карты ў хаце, што па суседстве са школай. А вось з заняткаў вяртаўся з усімі разам.

Аднойчы настаўніца напісала запіску ягонай маці: чаму сын не наведвае школу? Аднакласнік, якому тая даручыла яе занесці, махаючы пасланнем настаўніцы перад бацькавым носам, пахваліўся: ох, уляцічь, маўляў, табе, сябрук, ад маці на арэхі. Бацька прыцісну пасланца і адабраў запіску.

Дома, дэманструючы ягнае раўнадушша, падаў яе маці:

— Во, настаўніца перадала.

Бабуля Марфа была непісьменнай, таму папрасіла, каб сын сам і прачытаў, што там *напісана.*

"Паважаная Марфа Яўсееўна! — ледзьве не заплюшчыўшы вочы, пачаў выдумляць бацька. — Вялікі дзякуй за выхаванне сына..." І далей у гэткім жа духу.

— Малайчына, сынок! — пахваліла бабуля майго бацьку. — Так і далей вучыся.

І бацька вучыўся. Як і дагэтуль.

## Чыя?

У вёсцы рэдка людзей па прозвішчах называюць. Больш — па мянушках ды па іменах бацькоў ці дзядоў: Васілёвы, Кірылавы, Цімохавы. Нас гэтаксама клікалі *няйнакш як Абрамчыкавы,* бо і бацьку звалі Коля Абрамчык — у гонар ягонага бацькі, а нашага дзеда Абрама.

Калі, здаралася, маці пачынала пра некага расказваць, згадваючы прозвішча, бацька зазвычай перабіваў яе:

— Ты мне не кажы прозвішча, скажы лепш, чыя гэта.

## Як конь

"Наш бацька жадны на работу, — казала заўсёды маці. — Як той конь, жылы напінае".

І папраўдзе: колькі і памятаю, дык і сена на трактар бацька клаў столькі, што аж электрапровад на вуліцы чапляла, і дроў на воз грузіў — ледзьве конь цягнуў. А дзе якая яміна, то яшчэ і самому ў драбіны добра-такі ўпірацца трэба было.

Ён, прынамсі, і сам часам прызнаваўся, прыехаўшы з лесу: "Ото наклаў сёння вазок. Сам і дровы вёз, і калёсы з канём цягнуў".

*Не засмучаўся, а такім чынам хваліўся,* мабыць, бо ў наступны раз усё паўтаралася наноў, а то яшчэ і з большай "жаднасцю".

## Тры дні — тры літры

Бацька і Восіп працуюць у саўгаснай сталярцы.

Калі даюць сенакосны надзел, то Восіпу ў помач выпраўляюцца два дарослыя сыны, а бацька (тады мы з братам былі малыя) шоргае касой адзін. Праўда, зазвычай спраўляецца за дзень. Яшчэ і абед, які маці сабрала (вараныя яйкі, сала, гуркі-памідоры ды колькі цыбулін), прывязе некранутым дахаты. Бывае, *тая запытае, чаго не з'еў,* а бацька ў адказ:

— Ай, узяў быў разгон, то пра валізку тваю ўспомніў хіба як пару пракосаў засталося. Што расседжвацца, вырашыў. Лепей хутчэй закончу, а дома ўжо чаго гарачага пасёрбаю...

А вось Восіп — наадварот. Прынамсі, такі ж самы надзел ён і два сыны косяць тры дні.

— А як не касіць, — тлумачыць бацька, — калі ім па літру самагонкі да абеду дае Восіпава Ганна. — А тры дні — гэта ўсё ж не адзін літр, а тры. Яны, зрэшты, і пяць дзён касілі б, ды перад людзямі ўжо сорамна...

## Перакошаная брамка

Бацька зрабіў суседу брамку. Але той пад такім нахілам укапаў слупы, што навешаная на іх брамка выглядала перакошанай.

Бацька, убачыўшы гэта, перастаў нават на працу хадзіць паўз суседаву хату — дабрацца да сваёй сталяркі мог і праз другі канец вуліцы.

І ўсё ж аднойчы не вытрымаў:

— Пайду, скажу ўрэшт, хай перавесіць. А то, крый Божа, падумаюць, што гэта я такую перакошаную брамку зрабіў.

*І пайшоў. І разам перакапалі тыя слупы.* І брамку на іх навесілі як трэба.

...Цяпер бацька зноў ходзіць на працу звычным шляхам.

## Лісты-шыфроўкі

Мой бацька — няхай даруе, што абвяшчаю ўсім, — непісьменны неадукаваны. Ва ўсіх дакументах пішацца, што адукацыю мае пачатковую, хаця, як сам прызнаецца, не ведае, ці то чатыры класы закончыў, ці то чатыры гады ў адзін хадзіў.

Калі служыў (а гэта было на Курылах і Чукотцы на пачатку пяцідзесятых), то ў лістах, якія слаў *маці, тады яшчэ не жонцы, выводзіў адны зычныя,* накшталт Нтшк (Наташка, значыць).

Цяпер, жартуючы, кажа, што служыў, маўляў, на сакрэтных аб'ектах і гэткім чынам шыфраваў важныя звесткі, каб не выдаць дзяржаўную тайну.

Унукі, зрэшты, вераць.

## "Па прамой не трэба"

Бацькі закалолі свінчо. Мне па свежаніну прыехаць не выпала, і яны рашылі даставіць "маё" сцягно ў Мінск самі.

Прыехалі не папярэдзіўшы. Ад мяне ж ведалі, што дабрацца на "Захад" можна 44-ым *тралейбусам або на метро да станцыі* "Пушкінская".

Паехалі на метро. Але на "Кастрычніцкай" не пераселі на другую лінію, а калі спыталі, была ўжо "Плошча Якуба Коласа". Замест таго каб вярнуцца назад, выйшлі наверх.

— Ай, паедзем на таксі, — прапанаваў бацька. — Так надзейней будзе.

— Куды вам? — пацікавіўся таксіст.

— На вакзал, а потым па лініі 44-га тралейбуса на "Захад", — патлумачыў бацька.

— Навошта тады на вакзал, калі мы можам і адсюль па прамой паехаць? — не зразумеў таксіст.

— Не трэба нам па прамой, — не пагадзіўся бацька. — Па прамой мы ўжо са старой праехаліся на метро. А ад вакзала я ведаю, куды ехаць, — і як бы супакоіў: — Так што не хвалюйцеся, пакажу.

## У адзін і ў наступны

Бацька ніколі не ведаў, у якім класе мы вучыліся. Пазней маці расказвала нам, ужо дарослым:

— То ж запыталі неяк мужчыны ў сталярцы: "Коля, у які гэта клас твае ходзяць?" Бацька, ведаючы, што паміж мной і сястрой розніцы год, падумаў і кажа: "Значыць, так. Большы, Толік, — у адзін, а меншая, Галя, — у наступны".

А што: праўду сказаў. Падумаеш, дакладнай лічбы не назваў...

## "Падкіньце..."

Бацька не мог цярпець, калі нешта рабілі *горш,* чым ён. *Мы, абодва сыны, па сутнасці* з-за гэтай высока ўзнятай бацькам планкі так нічому і не навучыліся. Касіць пачнём — чубкі на сенажаці пакінем, а бацька незадаволены: маўляў, лепш сам скашу, чым за вамі дакошваць. І гэтак ва ўсім.

Маці, было, пярэчыла: "Ды яны так, Коля, ніколі не навучацца. Бо хіба ж хто ўгоніцца за табой?"

Быць настаўнікам бацька яўна не хацеў.

Нават цяпер ужо, калі капаем бульбу, і я ці зяць (між іншым, мацак не раўня мне) спрабуем аднесці які мех з "сотак" у падполле, бацька зазвычай перахопліва нас:

— Калі ўжо так хочацца дапамагчы, то падкіньце на плячо.

І носіць. У сваё семдзесят. Ці зможам у такія гады (калі яшчэ дажывём, вядома) гэтак жвава завіхацца мы?



*На здымку: разам з бацькам.*

# Камсамольская пуцёўка

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

Толькі не трэба складаць нам байкі пра паход у лагер, пра тое, што хлеб і рыбу Васілю даў афіцэр, — груба лаячыся, падступіліся да іх яны.

— І грошы даў афіцэр! — запэўніў Васіль.

— Афіцэр, кажаш? — рушыў да яго былы вязень-законнік, — Я зараз пакажу табе афіцэра! — Ён схапіў Васіля за каўнер і пацягнуў яго да ложка. — А ці не адсюль ты іх выцягнуў? — тыцнуў Васіля тварам у матрац.

— Як гэта — адсюль? Мне іх даў афіцэр! — кляўся хлопец.

— Бач, дабрачок знайшоўся! Хлебам і рыбай з намі падзяліўся, а грошы схаваў! — не супакойваўся Васілёў кат і для большага эфекту лупянуў Васілю па твары, а той аддзячыў тым самым.

Ужо пасля бойкі хлопцы даведаліся, што ў аднаго з жыхароў палаткі прапалі грошы. Ну і суседзі разважылі, што гэта справа Васілёвых рук. Так падумаць яны мелі важкую падставу — усе ведалі, што ні ў Васіля, ні ў яго сяброў грошай не было, а яны ў суботу расшчодрыліся на хлеб і воблу, у нядзелю хтосьці бачыў, як яны гулялі...Толькі праз пэўны час высветлілася, што злодзей — якраз былы вязень-законнік.

Неўзабаве хлопцы аказаліся сведкамі жудаснага здарэння: салдат-канваір застрэліў вязня. Калі калона вярталася з працы, надаралася, што да яе выходзілі сваякі, блізкія зняволеных, і ідучы побач, *вялі размову. Так было і гэтым разам.* Жанчына з дзіцем, якая сустрэла свайго мужа, ішла побач з ім. Казалі, што яна хацела даць яму гасцінец, але салдат-канваір адштурхнуў яе ад калоны, ды так моцна, што жанчына ўпала разам з дзіцем. Зэк не стрымаўся і плюнуў салдату ў твар. Апошні тут жа стрэліў.

Падзея гэта ўсхвалявала Васіля, змяніла яго ранейшыя ўяўленні пра жыццё і яго каштоўнасці. Нешта цяжкае налягло на яго душу. Усё часцей ён пачаў падумваць пра ад'езд на радзіму. Але ж як гэта зрабіць? З працы не звальняюць. Кажуць — калі ты прыехаў па камсамольскай пуцёўцы, дык павінен не менш года адпрацаваць. А паехаць без звальнення — значыць уцячы. А таму і не атрымаць грашовы разлік і працоўную кніжку. Тыя, хто заставаліся, казалі, што іх пераводзяць на другія будоўлі. А некаторыя выходзілі на волю па амністыі.

А тым часам з'явілася надзея, што неўзабаве вернецца дамоў бацька. Мінула *сем гадоў, як Васіль не бачыў яго, але,* здавалася, што яшчэ ўчора ён з бацькам хадзіў у поле, лес, на сенакос. Успаміналася, як аднойчы, калі пераходзілі раку, бацька нёс яго на левай руцэ, бо правая была нерухомай пасля раны, атрыманай на вайне. Паслізнуўся і выпусціў сына з рук, спалохаўся, а потым цалаваў яго і супакойваў. Шмат іншых успамінаў мроілася ў Васілёвай галаве, і ўсе падзеі, здавалася, адбываліся ў сне, у светлыя сонечныя дні. З вяртаннем бацькі, марылася Васілю, усё гэта вернецца зноў.

Часцей і часцей яго ахоплівала невыносная жаданне пакінуць усё і як мага хутчэй паехаць назад, дадому. Колькасць яго сяброў сярод вязняў з кожным днём меншала. Каго амніставалі, каго пераводзілі на іншыя будоўлі. "Хутка ўсіх вязняў перавядуць на новыя ўдарныя камсамольскія будоўлі. Так робіцца заўсёды, — сцвярджалі Васілёвы суразмоўцы, — іх пачынаюць узводзіць зняволеныя, а завяршаюць камсамольцы. Панавозяць камсамольцаў, а потым абвесцяць, што яны сваёй герайчнай працай датэрмінова здалі важны аб'ект, патрэбны краіне".

І на самай справе хлопцы пачалі заўважаць, што знікаюць цэлыя лагеры вязняў. Было так, што вечарам, ідучы з працы, яны праходзяць каля лагера, а назаўтра раніцай, ідучы на працу, нічога на тым месцы не бачылі.

Усё цяжэй і цяжэй станавілася Васілю на будоўлі. Тым больш, што двое яго сяброў перавяліся ў другое аўтаўпраўленне, адзін з'ехаў назад да сваёй сям'і, што і падштурхнула Васіля вярнуцца дахаты. Да таго ж ён *атрымаў пісьмо ад маці, у якім яна прасіла* хутчэй прыехаць. "Ува ўсіх дзеці як дзеці, жывуць дома, дапамагаюць па гаспадарцы, а мае паўцякалі ў свет, нечага шукаюць", — крыўдзілася яна.

Васіль пачаў абдумваць план свайго ад'езду. Каб звольніцца, ён вырашыў рабіць так, як і сябры, што перавяліся ў другую аўтакалону, а па атрыманні разліку і працоўнай кніжкі — з'ехалі. Напісаў заяву з просьбай перавесці яго на працу ў пятае аўтаўпраўленне. Сваё жаданне ён тлумачыў тым, што пайшоў вучыцца на шафёра дызельных аўтамабіляў, а пятае аўтаўпраўленне было ўкамплектавана менавіта такой маркай машын.

Кіраўніцтва пайшло насустрач і выдала загад аб пераводзе. Васіль атрымаў разлік, працоўную кніжку і палічыў сябе вольным. Ды яшчэ павінен быў наведаць камітэт камсамола будоўлі, зняцца з уліку. Але ж хто яго здыме? Проста пераставяць картку ў пятае ўпраўленне. Дык які сэнс туды ісці? Так, не зняўшыся з камсамольскага ўліку, на другі дзень раніцай пакінуў будоўлю. Прасцей кажучы — уцёк. Такі крыху няёмка, не па-камсамольску. "Але ж не я першы, не я апошні", — супакойваў сам сябе. Васіль сам чуў, як гаварылася на адным з камсамольскіх сходаў пра дванаццаць тысяч вяртанцаў з трыццаці васьмі, што прыехалі.

Не мінула і трох месяцаў, як паехаў Васіль на ўдарную камсамольскую будоўлю, і вось вяртаўся дахаты.

З вялікім хваляваннем падыходзіў да сваёй хаты. Чутка, што Васіль прыехаў, хутка разнеслася сярод вяскоўцаў і стала тэмай *усеагульнага абмеркавання.* Хто бачыў Васілёва вяртанне, казаў: "Відаць, добра зарабіў на той будоўлі, прыехаў, як міністр — у белых штанах".

— Ды не зайздросце вы, — адказвала яго маці аднавяскоўцам, — нічога ён не зарабіў, прыехаў гол, як сакол.

Потым Васіля са здзекам пыталі: "Ну як, братка, твае заробкі?" У адказ ён то маўчаў, то з гонарам абвяшчаў: "Затое свет пабачыў, чаго вы не бачылі і не ўбачыце".

Часта і падоўгу яны з захапленнем слухалі яго расповеды аднагодкі. І ўсё выходзіла ў Васіля так цікава, што некаторыя з сяброў заахвоціліся куды-небудзь таксама з'ездзіць, на што іх маці казалі: "Едзьце, едзьце, паблытайцеся па свеце, вернецеся, як Васіль — старцам у белых споднiках".

ФЕСТЫВАЛІ

# Яшчэ адна прыступка...

Вы паверыце, што сёння можна правесці трохдзённы фестываль без капейкі дзяржаўных грошай? А цуды між іншым здараюцца. Толькі дзякуючы ім (і добрым людзям) у Мінску на сцэне Тэатра юнага гледача адбыўся IV Міжнародны фестываль дзіцячых аматарскіх спектакляў "Крок у неба".

Два гады ішла падрыхтоўка: спектаклі праглядваліся на відэастужках, доўжылася перапіска з калектывамі. У выніку прыехалі паказаць свае творчыя набыткі не толькі самадзейныя артысты з Гомеля, Брэста, Маладзечна, Лепеля, але і госці з Расіі — Санкт-Пецярбурга, Гатчыны і нават Кемерава (што за Уралам).

Фестываль пераўзышоў усе спадзяванні арганізатараў, і ацэньваецца Ірынай Маркавай (а менавіта яе намаганнямі сталася магчымым свята дзіцячай творчасці) як самы паспяховы з усіх чатырох.

Ад густоўнага адкрыцця, зладжанага з дапамогай калектываў г. Дзяржынска, да грандыёзнага закрыцця — больш эстраднага, чым уласна тэатральнага — зала тэатра грымела воплескамі. Здавалася, тут сабраліся нейкія асаблівыя дзеці. Яны рэагавалі не толькі на відавочныя спробы спадабацца (танцы ў стылі рэп), але і на моманты някідкія: удалую мізансцэну, трапную рэпліку, новы сюжэтны паварот. А больш за ўсё падкупляла захапленне саміх удзельнікаў, якія ў зале радаваліся поспеху "канкурэнтаў".

Але гледачы гледачамі, а ў журы свой аўтарытэтны погляд на спектаклі. Пры абмеркаванні ўсе сышліся на тым, што светлай, жыццесцвярджальнай канцэпцыі фестывалю найбольш адпавядалі "Землетрасенне" кемераўцаў, "Аліса ў краіне цудаў" (тэатр "Аніма" мастацкага каледжа), "Неверагодны ілюзіён Эрні" ("Клас-А!" СШ № 74) і Прыгоды Пінокіа" гатчынскага тэатра "Сустрэчы".

Спрэчкі разгарэліся вакол спектакля піцерцаў "Марына". Ужо пры адкрыцці тэатр "YES!" унёс дысанансную ноту ў прыўзнятую атмасферу свята. Іх спектакль хтосьці назваў "Крокам у пекла". Гэтая паэтычная кампазіцыя, прысвечаная жыццю і творчасці Марыны Цвятаевай, уражвала экспрэсіяй і поўнай самааддачай юных выканаўцаў. Разам з тым, празмернае напружанне і беспрасветны фінал не адпавядалі як узросту аўдыторыі, так і ўмовам фестывалю. Станоўчыя водгукі, аднак жа, пераважылі, і спектакль атэставалі як "той канфлікт, без якога не бывае развіцця".

Не назіралася аднадушша сярод журы нават у дачыненні да прызнанага, вядомага далёка за межамі Беларусі гомельскага дзіцячага тэатра "Сінтэз" — відавочнага лідэра фестывалю. Сусветныя хіты, светлавыя эфекты, адмысловая вывучка танцораў, іх неверагодная зладжанасць — з аднаго боку, а з другога — музычна-пластычнае шоу "Жыццё" было празмерна зацягнутым, мела мо пяць фіналаў...



Галоўны рэжысёр ТЮГа А. Андросік заклікаў кіраўнікоў дзіцячых калектываў больш строга ставіцца да выбару драматургічнага матэрыялу. К. Драгунская, Э. Іянеска, М. Эплгейт: ці адпавядаюць іх творы выхаваўчым задачам пастаноўшчыкаў? Напрыклад, з "Правінцыйнай гісторыі" (тэатр "ТэсТ" г. Маладзечна) немагчыма зразумець, **пра што** гэты спектакль і што ім хацелі сказаць выканаўцы.

Правінцыйнасць увогуле не залежыць ад месца пражывання. Можна жыць у вялікім беларускім горадзе і за трыццаць год работы з дзецьмі не паставіць ніводнай беларускай п'есы! Бо адны дзіцячыя студыі топчуцца на расійскім матэрыяле (гомельскі "Равеснік"), другія не апускаюцца ніжэй замежнага (брэсцкі "Раёк"). Так, свет шырокі і адкрыты для нас, бяры хоць жменяй! Толькі што мы, беларусы, пакажам яму, акрамя таго, што ён і так сто разоў бачыў? Што раскажам пра сябе? Таму палітра свята была б няпоўнай без спектакляў па беларускай драматургіі. Тэатр "Летуценнікі" (Любанскі раён) паставіў спектакль па п'есе С. Кавалёва, лепельскі тэатр "Трыяда" — па А. Міхно. Выканаўца ролі Верабейкі Павел Каткавец атрымаў спецыяльны дыплом фестывалю як самы малады ўдзельнік.

Упершыню не ўдзельнічала ва ўласным фестывалі "Рондастудыя", яна адно дапамагала яго арганізацыі і размяшчэнню гасцей. Ад імя Тэатра юнага гледача падзякавала арганізатарам загадчыца педагагічнай часткі Л. Шайкоўская: "Вы далі нашаму тэатру зразумець, наколькі ён далёкі ад дзяцей". Святам разнастайнасці назвала фестываль тэатразнаўца з Расіі Т. Рапава. Усе ўдзельнікі атрымалі дыпломы розных намінацый і падарункі. Калі ж падводзіць вынікі з пабачанага і пачутага за тры дні, то нельга не прызнаць: дзіцячы аматарскі тэатр нашмат цікавейшы за дарослы і прафесійны. Гэты жывы тэатр, і выканаўца ў ім — не марыянеткі, а творцы і выдумшчыкі. Іх яшчэ не атруцілі "пупізм" і амбітнасць тэатральнага бамонду. Кожны спектакль фестывалю "Крок у неба" — яшчэ адна прыступка ў высокі свет дабра і прыгажосці.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымку: чатыры Марыны з аднайменнага спектакля (Санкт-Пецярбург).*



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## VIII Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні 23—26 мая 2002 г.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і факультэт тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта з фінансавай падтрымкай Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Христианский образовательный центр им. св. Мефодия и Кирилла" паведамляюць аб правядзенні 23—26 мая 2002 г. чарговых Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў, прысвечаных Міжнароднаму дню славянскага пісьменства і культуры.

Па тэме чытанняў: "Духоўнае прызванне чалавека ў секулярным свеце" плануюцца наступныя секцыі:

Агульнаславянская спадчына ў развіцці пісьменства, мовы і літаратуры;

Кірыла-Мяфодзіеўскія традыцыі ў кніжнай культуры славянскіх народаў;

Духоўнасць і аветніцкія традыцыі славян;

Культуралагічныя, рэлігійна-філасофскія і рэлігіязнаўчыя даследаванні.

Форма ўдзелу ў рабоце чытанняў:

Выступленне з пленарным дакладам — 20 мін.

Выступленне з секцыйным дакладам — 10 мін.

Рабочыя мовы чытанняў — беларуская, руская.

Чытанні будуць праходзіць на факультэце тэалогіі ЕГУ і ў БДУ культуры.

**Для ўдзелу ў чытаннях просім падаць наступныя матэрыялы:**

**Заяўку на ўдзел:** прозвішча, імя, імя па бацьку (поўнасцю); месца працы, пасада, вучоная ступень, званне; назва даклада; неабходныя тэхнічныя сродкі для выступлення; службовы і хатні адрас і тэлефоны.

**Тэкст даклада:** да 5 старонак камп'ютэрнага набору праз 1 інтэрвал (Word 6.0 — 7.0, фармат RTF; памер шрыфту — 14, Times New Roman) у электронным (на дыскеце) і ў раздрукаваным выглядзе (праз 2 інтэрвала).

Аргкамітэт просіць прытрымлівацца вызначанай тэмы чытанняў.

**Прадугледжваецца выданне зборніка матэрыялаў чытанняў.**

Рэдакцыйны савет пакідае за сабой права адбору матэрыялаў для выдання.

Адрасы аргкамітэта:

**Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, аддзел рэдкай кнігі.**

220001, Мінск, вул. Рабкораўская, 17.

Тэл. 222-83-27, 222-24-10, факс 222-24-09.

Еўрапейскі гуманітарны універсітэт, факультэт тэалогіі.

220030, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 24. Аргкамітэт VIII Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытанняў.

Тэл. (375-17)289-11-61, факс (375-17)229-20-55, E-mail: ehu teology@ehu.unibel.by.



***Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 17 мая 2002 г.***

## На хвалях Беларускага радыё

Праграма **"Літаратурны вечар"** адкрываецца 29 красавіка перадачай **"Музейныя тайны"**, у якой Ганна Кашуба прасочвае лёс сына Якуба Коласа Юркі.

У праграме **"Роднасць"** Іван Рыбіцкі прадстаўляе новыя плыні расійскай паэзіі. Перадача прагучыць у аўторак, 30 красавіка ў 22 .10.

Першамайскаму святу прысвечана праграма Святланы Шалімы **"Белы аркуш"** - серада, 1 мая. Выступаюць маладыя паэты і празаікі.

У сераду, 1 мая— **"З фондаў радыё"**. Г. Багданава, У. Казбанаў **"Майстэрня Жучка-Баравічка"**. Музычны радыёспектакль.

Суразмоўца Васіля Макарэвіча ў яго аўтарскай праграме, прысвечанай 120-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа— паэт, перакладчык, даследчык Уладзімір Мархель. Перадача прагучыць 2 мая ў 22.10.

У пятніцу, у 22.10— праграма Алёны Казлені **"Альфа і амега"**. Яна прысвечана лацінаамерыканскай літаратуры.

Па канале **"Культура"**, якую трэба шукаць у эфіры на хвалях 343,6 і 4,26 м, або 873 КГЦ і 70,4 МГЦ у аўторак, у 14.10— аўтарская праграма Галіны Шаблінскай **"Гаспода"**, у 15.00— **"Роднае слова"**, у 16.00— **"Паэтычны радыётэатр"**, у 16.40— **"Таленты з глыбінкі"**.

У суботу, у 9.00— **"Радавод"**, у 9.30— **"Славутыя імёны Бацькаўшчыны"**, у 18.30— **"Гаспода"**.

У нядзелю, у 15.30— праграма Маргарыты Прохар **"Літаратурны праспект"**. Прагучаць літаратурныя навіны, агляд новых нумароў часопісаў, анонс газеты **"Літаратура і мастацтва"**.

## "Гісторыя з паштовай скрыні"

### Конкурс для школьнікаў

Грамадскае аб'яднанне "Дыярыуш" пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Таварыства беларускай школы абвяшчае конкурс "Гісторыя з паштовай скрыні".

У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных устаноў (пачынаючы з 7-га класа): школ, ліцэяў, гімназій, а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў (да 19 год).

Форма конкурснай працы адвольная: сачыненне, эсэ, інтэрв'ю, фільм і інш. Калі праца нятэкставая (аўдыёзапіс, відэа-, фотаздымкі), да яе павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання альбо заключае каментар да крыніцаў.

Працу пажадана пісаць на беларускай мове, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з дапамогай куратара.

Да працы абавязкова павінна быць далучана анкета ўдзельніка з прозвішчам, імем удзельніка, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозвішчам, імем і каардынатамі кіраўніка (пры яго наяўнасці).

Працу трэба дасылаць у адным асобніку да 30 верасня 2002 г. (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Мінск.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 30 лістапада 2002 г.

Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзены ўмовы конкурсу, можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль (па тэлефоне (8-017) 227-51-09, па эл. пошце: office@dyjaryush.org.by, па пошце: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Мінск).

Жадаем поспехаў!





ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Галоўны рэдактар**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*

**Уладзімір МАРУК —** *намеснік галоўнага рэдактара,*

**Яўген РАГІН,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**

**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**

**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**

**літаратурнага жыцця — 284-8462**

**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**

**паэзіі і прозы — 284-7985**

**музыкі — 284-8153**

**тэатра, кіно — 284-8153**

**выяўленчага мастацтва — 284-8462**

**фотакарэспандэнт — 284-8462**

**бухгалтэрыя — 284-8462**

**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2626

Нумар падпісаны ў друк 25.04.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2562

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12